

# Каапэрацыя БССР

## Часопіс

каапэрацыйных цэнтраў БССР, Белсельбанку і Ўсекабанку

Ліпень

№ 7

1929

Менск

# ЗЬМЕСТ

Пралетары ўсіх краёў, злучайцеся!



# КААПЭРАЦЫЯ Б. С. С. Р.

**ДВУХТЫДНЁВЫ ОРГАН
КААПЭРАЦЫЙНЫХ ЦЭНТРАЎ БССР,
БЕЛСЕЛЬБАНКУ і ЎСЕКАБАНКУ**

**ПАД РЭДАКЦЫЯЙ
АЛ. КРАСОЎСКАГА, ТУМАСА,
МАТУСЭВІЧА, Г. ХАСКІНА і А. ФРЫДА**

**ПЕРШЫ ГОД ВЫДАНЬНЯ**

## № 7

**ЛІПЕНЬ**

**МЕНСК — 1929**

# Аб арганізацыйнай пабудове сельска-гаспадарчай каапэрацыі

## Пастанова ЦК ЎсеКП(б)

У адпаведнасьці з тым асаблівым значэньнем, якое набывае сельска-гаспадарчая каапэрацыя ў справе пад'ёму і сацыялістычнае перабудовы сельскае гаспадаркі, арганізацыйная структура і мэтады працы сельска-гаспадарчай каапэрацыі, у асаблівасьці яе першапачатковых утварэньняў, павінны быць прыстасованы да задач вытворчага каапэраваньня і калектывізацыі сельскае гаспадаркі і максымальнага ўцягненьня ў каапэрацыйнае будаўніцтва сродкаў самога сельскага насельніцтва.

Разьвязваньне гэтых задач павінна ісьці па лініі:

а) утварэньня спэцыяльных сыстэм сельска-гаспадарчай каапэрацыі па асноўных галінах сельска-гаспадарчай вытворчасьці для кожнага раёну, якія апіраюцца на сваю ўласную нізавую сетку вытворчых каапэратываў;

б) узмацненьня і паглыбленьня вытворчай працы спэцыяльных сыстэм сельска-гаспадарчай каапэрацыі шляхам згрупаваньня ў іх распараджэньні асноўных рычагоў рэканструкцыі сельскае гаспадаркі (вытворчае крэдытаваньне, забясьпечаньне прыладамі і сродкамі вытворчасьці, забясьпечаньне насеньнем, вытворчыя прадпрыемствы, аграабслугоўваньне);

в) разьвіцьця на аснове кантрактацыі масавых форм вытворчага каапэраваньня сельскіх гаспадарак і разгортваньня будаўніцтва буйных калгасаў;

г) адпаведнай перабудовы на пачатках спэцыялізацыі нізавых і саюзных зьвеньняў сыстэмы сельска-гаспадарчага крэдыту;

д) узмацненьня кіраўніцтва дзейнасьцю сельска-гаспадарчай каапэрацыі з боку партыйных і савецкіх органаў і ўзмацненьня ўнутры каапэрацыйнай гаспадарчай дысцыпліны.

Выходзячы з гэтага, ЦК ЎсеКП(б) лічыць, што ў аснову арганізацыйнае пабудовы сельска-гаспадарчай каапэрацыі павінны быць пакладзены наступныя асноўныя палажэньні:

1) Масавай нізавой вытворчай ячэйкай сельска-гаспадарчай каапэрацыі павінна зьявіцца вытворчае таварыства спэцыяльнага напрамку (зерневае, па разьвядзеньню бавоўны, буракоў і г. д.) пасёлкавага тыпу з аформленым статутам і паявым капіталам. Адпавядаючая вытворчая сыстэма сельска-гаспадарчай каапэрацыі павінна дамагацца абхопу гэтых аб'яднаньняў калектыўнымі ўмовамі аб кантрактацыі пасеваў і ажыцьцяўленьня прадугледжваемых умовамі мерапрыемстваў па перабудове і падняцьцю сельскае гаспадаркі на аснове каапэраваньня і калектывізацыі вытворчасьці і збыту сельскае прадукцыі.

Арганізуючы бядняцка-серадняцкія масы вёскі для барацьбы з кулацтвам і перамогі яго супраціўленьня мерапрыемствамі па сацыялістычнай рэканструкцыі сельскае гаспадаркі, сельска-гаспадарчая каапэрацыя павінна ставіць сваёю важнейшаю задачаю ўсямернае садзейнічаньне перарастаньню найпрасьцейшых вытворчых аб'яднаньняў у больш складаныя формы вытворчага каапэраваньня і арганізацыі на гэтай аснове буйнае калектыўнае вытворчасьці. Вытворчыя таварыствы, назапашваючы і ўзмацняючы элемэнты абагульненае гаспадаркі, павінны зьявіцца базаю для масавага будаўніцтва буйных калгасаў.

2. У мэтах набліжэньня кіраўніцтва працэсамі вытворчага каапэраваньня і калектывізацыі да нізавых вытворчых ячэек, а таксама ў мэтах

рацыяналізацыі тэхнічнай базы сельска-гаспадарчай каапэрацыі, найпрасьцейшыя вытворчыя аб'яднаньні і калгасы павінны аб'яднацца поруч з калгасааб'яднаньнямі ў спэцыяльныя вытворча-збытавыя раённыя аб'яднаньні па асноўных галінах сельскае гаспадаркі (каапхлебы, аб'яднаньні па разьвядзеньню буракоў, бавоўны, гадоўлі жывёлы і інш.), якія абслугоўваюць нізавую сетку вытворчых каапэратываў па лініі збыту сельскае прадукцыі, забясьпечваючы іх сродкамі вытворчасьці, аградапамогаю, інструктаваньнем, арганізацыі на аснове мабілізацыі сродкаў насельніцтва прадпрыемстваў па першапачатковай перааапрацоўцы і апрацоўцы сельска-гаспадарчых прадуктаў, а асабліва ў галінах прадукцыйнае жывёлагадоўлі і пладагародных культур і г. д.

У месцах, дзе знаходзяцца дзяржаўныя прадпрыемствы па перааапрацоўцы і прадпрыемствы спажывецкай каапэрацыі, раённыя аб'яднаньні павінны ўвязваць сваю працу з гэтымі прадпрыемствамі на прадмет арганізаванага забясьпечаньня іх сыравінаю і скарыстаньня іх тэхнічнае базы для рэканструкцыі і калектывізацыі сельскае гаспадаркі. Раёны дзейнасьці другога зьвяна вытворчых сыстэм сельска-гаспадарчай каапэрацыі, як абавязак, павінны супадаць з адміністрацыйнымі раёнамі.

Сетка раённых аб'яднаньняў (каапхлеб і г. д.) павінна аб'яднацца з спэцыяльнымі абласнымі, а там, дзе гэта мэтазгодна, акруговымі саюзамі.

3. Першапачатковыя вытворчыя каапэратывы (т-вы зерневыя, па разьвядзеньню бавоўны, гадоўлі жывёлы і г. д.) ажыцьцяўляюць сяброўства ў сыстэме свае галіны з тым, што абслугоўваньне іх патрэб па астатніх, неасноўных для дадзенага раёну, галінах сельскае гаспадаркі ажыцьцяўляюцца другімі спэцыяльнымі сыстэмамі на аснове асобных узгадненьняў паміж асноўнаю ў дадзеным раёне галінаю каапэрацыі і другімі спэцыяльнымі каапэрацыйнымі сыстэмамі, без абавязковага ўваходжаньня вытворчых таварыстваў у склад сяброў апошніх і без унясеньня ў гэтыя сыстэмы паявых узносаў.

Умовы паміж каапэратывамі будуюцца на аснове добраахвотных узгадненьняў, пры чым гэтыя ўмовы могуць утварацца як паміж адпаведнымі каапэратывамі, так і паміж вышэйстаячымі зьвеньнямі каапэрацыйных арганізацый.

Пры ўтварэньні ў вёсцы (поруч з асноўным спэцыяльным вытворчым т-вам) другіх спэцыяльных каапэратываў, па неасноўных для дадзенага раёну галінах сельскае гаспадаркі, гэтыя каапэратывы ажыцьцяўляюць сяброўства непасрэдна ў адпаведаючай спэцыяльнай каапэрацыйнай сыстэме.

Усе нізавыя вытворчыя каапэратывы, апрача ўваходжаньня ў сваю спэцыяльную сыстэму, уваходзяць сябрамі таксама ў крэдытныя таварыствы свайго раёну.

4) На вышэйпаказаных асновах павінна быць перабудавана ў першую чаргу хлебная сыстэма сельска-гаспадарчай каапэрацыі ў асноўных зерневых раёнах.

У астатніх раёнах арганізацыйная пабудова рольніцкіх сыстэм сельска-гаспадарчай каапэрацыі павінна разьвівацца на аналёгічных асновах, прыстасоўваючыся да запатрабаваньняў і асаблівасьцяй асноўнай для дадзенага раёну галіны сельскае гаспадаркі (лён, бавоўна, гадоўля жывёлы і г. д.).

5. Надаючы асаблівае значэньне справе разьвядзеньня і пашырэньня насеньня, прызнаць неабходным узмацніць тып гэтае каапэрацыі і ўвязаць яе са спэцыяльнымі сыстэмамі сельска-гаспадарчай каапэрацыі шляхам заключэньня дагавораў паміж насеннаводчай каапэрацыяй і сыстэмамі галін сельска-гаспадарчай каапэрацыі на прадмет узгадненьня іх дзейнасьці

6. У зьвязку з перадачаю забясьпечаньня сялянскіх гаспадарак прыладамі і другімі сродкамі вытворчасьці сыстэмамі галін сельска-гаспадарчай

каапэрацыі прызнаць неабходным ліквідацыю сыстэмы спэцыяльных арганізацый забясьпечаньня сельска-гаспадарчай каапэрацыі (сельскасаюз, саюзы забясьпечаньня,каапэратывы забясьпечаньня),з перадачаю іх функцый адпаведаючым галінам і зьвеньням вытворчае сельска-гаспадарчае каапэрацыі.

7. Арганізаваць адзіную зьмешаную ўсесаюзную дзяржаўна-каапэрацыйную арганізацыю па забясьпечаньню сельска-гаспадарчымі машынамі як дзяржаўных сельска-гаспадарчых аб'яднаньняў (зернятрэст, саўгастрэст, цэнтр. МТС), так і каапэрацыйных сыстэм.

Выступаючы перад прамысловасьцю ў якасьці адзінага прадстаўніка і заказчыка ад імя дзяржаўных сельска-гаспадарчых арганізацый і каапэцыйных цэнтраў, цэнтр забясьпечаньня павінен ажыцьцяўляць завоз машын на генэральных умовах са сваімі сябрамі ў строгай адпаведнасьці з іх заказамі і плянамі машыназабясьпечаньня.

Цэнтр забясьпечаньня не павінен мець сваіх аддзяленьняў ніжэй абласнога маштабу.

8) У галінах сельскае гаспадаркі з разьвітаю практыкай кантрактацыі сельска-гаспадарчая каапэрацыя вытварае свае загатоўчыя апэрацыі ў асноўным парадку кантрактацыі, прымаючы ўдзел у загатоўках незакантрактованых прадуктаў поруч са спажывецкай каапэрацыяй і другімі дзяржаўнымі загатоўчымі арганізацыямі.

Усе функцыі забясьпечаньня, не зьвязаныя непасрэдна з арганізацыяй сельска-гаспадарчай вытворчасьці, ажыцьцяўляюцца спажывецкай каапэрацыяй і дзяржаўнымі органамі (прадметы і тавары спажываньня хатняга і гаспадарчага ўжытку, гаспадарчы інвэнтар, забясьпечаньне індывідуальнага будаўніцтва і інш.). Праца па збыту сельска-гаспадарчых прадуктаў, матар'ялаў і прадметаў другараднага парадку (другарадны экспарт) ажыцьцяўляецца ў асноўным спажывецкай каапэрацыяй і дзяржаўнымі загатоўчымі органамі.

9. Па меры вылучэньня вытворча-збытавых функцый з сельска-гаспадарчых крэдытных т-ваў і пераходу апошніх да крэдытаваньня вытворчых аб'яднаньняў і калгасаў, сельска-гаспадарчыя крэдытныя таварыствы павінны ператварацца ў спэцыяльныя арганізацыі з крэдытнымі функцыямі. Уключаючы ў склад сваіх сяброў як калгасы і першапачатковыя вытворчыя сельска гаспадарчыя каапэратывы, так і індывідуальныя гаспадаркі (у тэй меры, ў якой апошнія не ахоплены вытворчымі аб'яднаньнямі), крэдытныя т-вы павінны згрупаваць сваю дзейнасьць на мабілізацыі ашчаднасьці насельніцтва і каапэрацыйных арганізацый, на выкананьні функцый нізавой разьліковай касы, на кантролі над грашовай дзейнасьцю першапачатковых сельска-гаспадарчых каапэратываў, грашовым абслугоўваньні звароту паміж горадам і вёскай і выкананьні даручэньняў грашовых установ. У адпаведнасьці з гэтым раён працы сельска-гаспадарчага крэдытнага т-ва павінен паступова пашырацца.

10. Крэдытаваньне сялянскіх гаспадарак павінна вытварацца сыстэмай сельска-гаспадарчага крэдыту, як правіла, праз нізавую сетку адпавядаючых вытворчых сыстэм сельска-гаспадарчай каапэрацыі па плянах адпавядаючай галіны сыстэмы сельска-гаспадарчай каапэрацыі і на ўмовах апошніх з банкамі. Першапачатковыя вытворчыя каапэратывы зьяўляюцца адказнымі перад крэдытнымі таварыствамі за напрамак крэдытаў па назначэньню і па своечасовай іх аплаце.

11. Выходзячы з задач далейшага разьвіцьця наступленьня на кулацтва і прымаючы пад увагу пазбаўленьне кулацтва права голасу ў зямельных таварыствах, лічыць неабходным пазбаўленьне права голасу ва ўсіх відах каапэрацыі кулакоў і непрацоўных элемэнтаў, пазбаўленых выбарчых правоў ў саветы.

Г. Хаскін

# Праблема кадраў спажывецкай каапэрацыі Б. С. С. Р.

Разьвіцьцё каапэрацыі на аснове дырэктываў партыі ў працягу апошніх год прывяло да таго, што яна стала асноўным арганізатарам таваразвароту паміж горадам і вёскай, асноўным фактарам змычкі эканомікі дробнага таваравытворцы і сацыялістычнае плянавае гаспадаркі. На аснове гэтых посьпехаў і палепшаньня працы каапэрацыі 15-ы зьезд партыі ВКП і 12-ы зьезд КПБ сфармуляваў ясна цэлы шэраг новых задач, якія азначаюць пераход яе на новую вышэйшую ступень разьвіцьця.

Аднэй з такіх задач цяпер зьяўляецца задача падрыхтоўкі ў сыстэме дастатковых кадраў культурна-тэхнічных сіл з асяродку пралетарска-бядняцкіх і серадняцкіх мас, якія здольны выконваць ускладзеныя на іх абавязкі.

У рэзалюцыі 15-га зьезду ВКП і 12-га зьезду КПБ па працы ў вёсцы аб вылучэньні новых кадраў мы чытаем: „Замацоўваючы посьпехі па вылучэньні на кіруючую каапэрацыйную працу найбольш надзейных элемэтаў бядняцка-серадняцкага сялянства і ствараючы з іх новыя шырокія кадры сацыялістычных каапэратараў, узмацніць барацьбу з тымі кулацкімі элемэнтамі, якія імкнуцца аўладаць нізавымі каапэрацыйнымі арганізацыямі“...

Вось чаму далейшы рост спажыўкаапэрацыі і ўсямернае якаснае ўдасканаленьне ўсіх галін яе працы павінна быць поўнасьцю ўвязана з выкананьнем гэтае дырэктывы аб укамплектаваньні апарату патрэбнымі кадрамі падрыхтаваных, клясава вытрыманых і адпаведных для каапэрацыі працаўнікоў.

Тое становішча, што сыстэма да апошняга часу не ўдзяляла патрэбнае ўвагі пытаньню падбору працаўнікоў, вылучэньню і падрыхтоўцы новых кадраў, давяло да некаторага засьмечаньня каапэрацыйнага апарату зусім чужым савецкай уладзе і савецкай каапэрацыі элемэнтам.

З другога боку, у цэлым шэрагу арганізацый, як у ніжэйшых, так і ў вышэйшых, заўважаецца няўважлівасьць, абыякавасьць і недастатковае ўсьведамленьне тых вялікіх задач, якія пастаўлены партыяй перад сыстэмай спажыўкаапэрацыі. Вельмі часта каапэрацыйна-грамадзкая праца апарату заменьваецца простым гандлярскім падыходам да спажыўца, са ўсімі вынікамі з усяго гэтага для сувязі каапэратыву з насельніцтвам. Злоўжываньні і растраты, асабліва ў нізавым сельскім зьвяне, зьяўляюцца ня чым іншым, як вынікам няздольнасьці дадзенага апарату або засьмечанасьцю яго элемэнтаў спэкулятыўным, які ідзе ў каапэрацыю дзеля сваіх мэтаў (саманажывы і г. д.). І таму зусім відавочна, што падрыхтоўка новых кадраў для спажыўкаапэрацыі і перападрыхтоўка старых кадраў высоўваецца як асноўная і тэрміновая задача.

Што ўяўляе сабою сацыяльны склад каапэрацыйных працаўнікоў у праўленьні нізавой сеткі БССР (бяз гораду)? У адказ на гэта пытаньне ніжэй прыводзім дадзеныя у %%, пасьля ня так даўно скончанай перавыбарчай кампаніі (лічбы даюцца на 1-е красавіка 29 г.)

| Рабочых і батракоў | Сялян-беднякоў | Сялян-серадиякоў | Служачых | Іншых |
|---|---|---|---|---|
| 14,3 | 35,2 | 26 | 22 | 2,5 |

Партыйная і камсамольская праслойка у праўленьнях нізавых арганізацый відна з наступных дадзеных (таксама на 1/IV-29 г.):

| | |
|---|---|
| Сяброў і кандыдатаў КПБ . . . . . . . . . | 36,7% |
| Сяброў ЛКСМ . . . . . . . . . . . . . | 9% |
| Р а з а м . . . . . . . | 45,7% |

Нацыянальны склад у праўленьнях: 81,8% беларусаў, 11,2% яўрэяў, 1,7% палякаў, 2,9% расейцаў і 2,4% іншых.

Гэтыя дадзеныя паказваюць, што ў агульным сацыяльны склад у нізавых арганізацыях больш-менш здавальняючы, а нацсклад поўнасьцю адпавядае ўдзельнай вазе асобных нацыянальнасьцяй, якія ўваходзяць у склад насельніцтва БССР. Аднак зьвяртае на сябе ўвагу значны % служачых і іншых. Адгэтуль задача далейшага палепшаньня сацыяльнага складу застаецца цалком у сіле, калі ўзяць пад увагу, што тут адсутнічае падлік сапраўднай адданасьці працы.

На жаль, мы ня можам абмаляваць поўнасьцю сацыяльна-клясавы склад кіраўнічых і інструктарскіх кадраў у райсаюзах і ЦРК. Усё-ж дадзеныя, якія падаюцца ніжэй, даюць малюнак аб гэтым складзе:

| | Партыйнасьць | | Сацыяльны склад | | | Н а ц с к л а д | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Сяброў і кандыдатаў КПБ | Сяброў і кандыдатаў ЛКСМ | Рабочых | Сялян | Служ. і інш. | Беларусаў | Расейцаў | Яўрэяў | Палякаў | Іншых |
| Склад інструктароў (ёсьць 98 ч.) | 51,0 | 9,2 | 15,3 | 11,1 | 73,6 | 48,1 | 9,1 | 36,8 | 1 | 5 |
| Склад праўл. ЦРК і гарспаж. т-ваў (%%) . . . . . | 62,4 | 4,7 | 60,5 | 3,5 | 36,0 | 40,0 | 10,6 | 43,5 | 1,2 | 4,7 |

Гэтыя дадзеныя паказваюць, што інструктарскі склад, праз які мы робім вялікую працу, зьяўляецца нездавальняючым як у сэнсе партыйнай праслойкі, гэтак і сацыяльнага складу (73,6% служ.). Тое-ж самае і ў рабочай каапэрацыі, дзе процант служачых вельмі вялікі (36%), а таксама нізкі % беларусаў. Тут мы зусім не разглядалі пытаньня зьменнасьці складу, яго падрыхтоўкі і стажу каапэрацыйнай працы, бо ў гэтых адносінах справа з нашымі кадрамі ня зусім спрыяючая.

Па сутнасьці праблема кадраў для спажывецкай каапэрацыі БССР ўяўляе сабою комплекс пытаньняў: па-першае, падрыхтаваць патрэбны лік новых працаўнікоў, якія будуць працаваць у каапэрацыі ў зьвязку з пашырэньнем аб'ёму гаспадарчай і культурнай працы ўсіх зьвеньняў сыстэмы; па-другое, перападрыхтаваць тыя кадры, якія зарэкамэндавалі сябе адданымі працаўнікамі, але не аўладаюць патрэбнымі ведамі і кваліфікацыяй; таксама рашуча павесьці чыстку каапэрацыйнага апарату ад няздольнага элемэнту, ад бюракратаў і тых, хто прымазаўся.

Такім чынам, задача па падрыхтоўцы кадраў зьяўляецца задачай папаўненьня каапэрацыі працаўнікамі культурна-якаснага ўзроўню.

Прапрацаваныя дадзеныя, якія мы маем аб павялічэньні працаўнікоў паасобных зьвеньняў сыстэмы, кажуць наступнае:

| | 1/X-28 г. | 1/X-33 г. | Патрэба ў працаўнікох з падлікам убываючых |
|---|---|---|---|
| Сельскія спаж. т-вы . . . . . . . . | 5050 | 9010 | 6269 |
| ЦРК (12 гар.) . . . . . . . . . | 2403 | 4783 | 3854 |
| Райсаюзы і аддзялен.. . . . . . . | 1815 | 1905 | 121 |
| БКС . . . . . . . . . . . . | 170 | 168 | 39 |
| | 9438 | 15866 | 10283 |

Адгэтуль перад сыстэмай паўстае сур'ёзная задача па папаўненьні сваіх кадраў звыш чым 10000 чалавек у працягу бліжэйшых год. Аднак, тут важны ня толькі колькасны, але і якасны бок пытаньня. У сыстэме гэтага росту, як асноўнай прадпасылкай для максымальнага падвышэньня якасьці працы спажывецкае каапэрацыі, зьяўляецца неабходнасьць перабудаваць апарат па лініі яго спэцыялізацыі: па кожных галінах каапэрацыйнай гаспадаркі. З асаблівай вострасьцю павінна быць пастаўлена пытаньне аб замене і папаўненьні новымі кадрамі апарату па загатоўках, дзе да сучаснага моманту яшчэ знаходзяцца гандляры і наогул элемэнт, які не карыстаецца павагай.

Вынікі апошніх загатоўчых кампаній з усёю відавочнасьцю гэта падмацоўваюць. Можна падаць шмат фактаў, што з кадрамі на гэтым фронце працы справа абстаіць няспрыяюча. Даволі значнае месца трэба аддаць наплыву ў каапэрацыю кадраў для вельмі складанай і кваліфікаванай арганізацыйнай і культурнай працы. Роля спажывецкай каапэрацыі нагэтулькі вырасла і расьце, што яна ўжо ня можа абмежавацца толькі аднымі мэханічнымі працэсамі разьмеркаваньня. Узьдзейнічаньне на якасьць прамысловай прадукцыі, арганізацыя найбольш танных і рацыянальных форм і мэтадаў разьмеркаваньня матар'яльных рэсурсаў краіны па лініі асабістага спажываньня і г. д — вось па сутнасьці арганічная і неад'емная функцыя спажыўкаапэрацыі, да якой яна яшчэ цалком не падыйшла, і да якой ў бліжэйшы час ёй прыдзецца з усёю рашучасьцю падыйсьці.

Адгэтуль і высоўваюцца зусім законныя патрабаваньні на больш гандлёвага і арганізацыйнага працаўніка, з высокім узроўнем, як для вышэйшых зьвеньняў сыстэмы, так і для ніжэйшых.

Усе высунутыя патрабаваньні і задачы ў аднолькавай меры адносяцца ня толькі да новых кадраў, але і да тых, хто працуе ў каапэрацыі.

Ахарактарызаваныя ў агульных рысах вялікія і вельмі складаныя задачы па падрыхтоўцы кадраў для спажыўкаапэрацыі БССР высоўваюць правядзеньне цэлага шэрагу рашучых мерапрыемстваў.

ЦК УсеКП(б) у сваёй пастанове ад 12 лістапада 1928 году аб выніках праверкі каапэрацыйных кадраў даў ацэнку стану каапэрацыйнага апарату і вызначыў зусім яскравыя, выразныя дырэктывы. Наша бяда ў тым, што мы гэтыя дырэктывы яшчэ цалком не правялі ў жыцьцё. Таму першае і асноўнае — гэта правесьці ў жыцьцё цалком гэту пастанову, якая забясьпечвае значнае палепшаньне сацыяльна-клясавага складу каапэрацыйных кадраў.

За гэту справу павінны ўзяцца ўсе нашы арганізацыі, калі мы сапраўды і сур'ёзна хочам займацца пытаньнямі ўмацаваньня кадраў нашых каапэрацыйных устаноў.

Кажучы аб каапэрацыйнай асьвеце, мы павінны сказаць, што тыя адносіны, якія былі да гэтых часоў з боку нашага Наркамасьветы да такое важнае справы, у апошні час значна зьмяніліся. Устаноўка, якая зроблена Саўнаркомам БССР у галіне каапэрацыйнае асьветы ў пяцігадовым пляне, дае поўную магчымасьць спадзявацца, што справа каапэрацыйнае асьветы ў БССР ня толькі будзе пашырацца, але і значна паляпшацца па сваёй якасьці.

Таму пакладзены пачатак па арганізацыі ў БССР у 1929-30 годзе спэцыяльнае каапэрацыйнае прафшколы з 3 гадовым курсам навучаньня павінен знайсьці сваё поўнае ажыцьцяўленьне. Таксама трэба дамагчыся, каб каапэрацыйнае аддзяленьне на факультэце права і гаспадаркі БДУ, якое вызначаецца да адчыненьня у 1929-30 навучальным годзе, было таксама ажыцьцёўлена.

Віцебскі-ж каапэрацыйны тэхнікум, які рэарганізуецца на пачатках набліжэньня яго да патрэб каапэрацыі і адчыненьня тавараведчага аддзяленьня пры ім, павінен даць сыстэме працаўнікоў сярэдняй кваліфікацыі.

Аднак, ня гледзячы на ўсе вышэйадзначаныя шляхі падрыхтоўкі кадраў, мы лічым неабходным сказаць, што на бліжэйшы час трэба арганізаваць (такая маецца на ўвазе) даволі шырокую сетку сталых курсаў падрыхтоўкі па спэцыяльных праграмах. Такія курсы павінны існаваць пры райсаюзах і буйных ЦРК. Павінны быць значна пашыраны кароткатэрміновыя эпізадычныя курсы для перападрыхтоўкі нізавых кадраў. У праграмах агульнаадукацыйных школ павінна быць забясьпечана месца пытаньням асноўных галін каапэрацыі.

Зразумела, што ўласнымі сродкамі і сіламі сыстэма ня здолее выканаць задачы падрыхтоўкі і камплектаваньня кадраў. Усе паказаныя мерапрыемствы павінны праводзіцца ў жыцьцё пры актыўнай дапамозе Наркамасьветы і прафсаюзаў.

Існуючая ў сыстэме некаторая пасыўнасьць да справы перападрыхтоўкі кадраў павінна скончыцца. Галоўнае падтрыманьне спажыўкаапэрацыя павінна атрымаць ад Цэнтрасаюзу як шляхам прысылкі спэцыялістых у БССР, так і значным пашырэньнем месц для сыстэмы спажыўкаапэрацыі БССР у цэнтральных навучальных установах.

Ва ўсіх мерапрыемствах па падрыхтоўцы і перападрыхтоўцы павінна ажыцьцяўляцца пастаўленая задача па ўцягненьню ў справу каапэрацыйнага будаўніцтва рабоча-батрацкай і бядняцкай часткі насельніцтва.

Вялікая ўвага павінна быць удзелена вылучэньню жанчын і моладзі.

Толькі ўпартаю працай па стварэньню кваліфікаваных і клясава вытрыманых кадраў спажыўкаапэрацыя БССР справіцца с тымі цяжкімі і складанымі задачамі, якія стаяць перад ёй.

Ваўкавіцкі

# Рацыяналізацыя дзелаводзтва ў сыстэме спажыўкаапэрацыі

Дзелаводзтва ёсьць злучнасьць дзеяньяў па руху, выкананьню і хаваньню дзелавых папер. Увесь тэмп установы залежыць ад руху, які і зьяўляецца галоўным элемэнтам дзелаводзтва. Установа з хуткім кругазваротам папер працуе больш прадукцыйна, а гэта хуткасьць залежыць ад дзейнай сыстэмы дзелаводзтва, падбору апарату і структуры самой установы.

Рост народнае гаспадаркі, рост каапэрацыі, патрабаваньні пралетарскай дэмакратыі настойлівым чынам дыктуюць нам пра неабходнасьць пераходу на новыя формы канцалярскай працы, якая мае на мэце палепшыць абслугоўваньне працоўных, палепшыць, зрабіць лягчэйшым і таньнейшым абслугоўваньне пайшчыкаў.

Такою новаю формаю зьяўляецца ў сучасны момант сыстэма безрэгістрацыйнага дзелаводзтва, якая ўводзіцца ў каапэрацыйны ўжытак. Каштоўнасьць гэтай сыстэмы тая, што яна зьяўляецца сур'ёзным крокам да барацьбы з валакітай і бюракратызмам, якія яшчэ моцна ўкараніліся ў нашым апараце; яна зацікаўлівае і накіроўвае ўсю працу ўстановы на новыя рэйкі, рэйкі цьвёрдай дысцыпліны, адказнасьці выканаўцаў, паскораньня звароту дакумэнтаў.

Безрэгістрацыйная сыстэма ў адзнаку ад усіх іншых сыстэм адмаўляе неабходнасьць якой бы то ні было рэгістрацыі ці запісу папер як атрымліваемых установаю, так і накіроўваемых ёю.

Рэгістрацыя папер мела асноўнай задачай выдачу даведак аб тым, ці паступіла тая ці іншая папера ва ўстанову. Аднак, гэтыя даведкі могуць

выклікацца або затрыманьнем у выкананьні папер, або іх згубай. Сама даведка аб паступленьні паперы ў установу нікога не здавальняе: таму, хто наводзіць даведку, патрэбны вынікі. Пры адсутнічаньні строгага парадку ў справах установы, пры адсутнічаньні нагляду за хаваньнем і выкананьнем папер, апошнія лёгка могуць залежвацца ў партфэлі, ці наогул у сталох працаўнікоў.

Пабачым схэму пастаноўкі справы безрэгістрацыйнага дзелаводзтва. Дзеля правядзеньня дзелаводчай працы робіцца цьвёрды сьпіс адказных выканаўцаў і шэраг пытаньняў, якія ўваходзяць у кола дзейнасьці кожнага выканаўцы. Адказным выканаўцам даюцца ўмоўныя нумары.

Схэма руху папер такая: сэкратар-выканаўца.

У асноўным тэрміновыя паперы і тэлеграмы павінны выконвацца выканаўцам у той-жа дзень па атрыманьні, а астатнія—у працягу 2-3 дзён. Пры неабходнасьці зьбіраньня матар'ялаў для некаторае распрацоўкі тэрміны выкананьня вызначаюцца адпаведным кіраўніком.

Уся прыходзячая пошта ідзе проста да сэкратара, якім яна праглядаецца, ставіцца дата, і адзначаецца нумар выканаўцы, раскладваецца ў папкі для выканаўцаў і перадаецца зараз жа апошнім.

Разьмеркаваньне ўваходзячых папер па выканаўцах вытвараецца сэкратаром у строгай адпаведнасьці клясыфікатара спраў. У тых выпадках, калі на паступіўшую паперу трэба даць адказ, сэкратар ня ставіць нумар выканаўцы, а падкрэсьлівае спасылачны нумар, г. зн. нумар выканаўцы.

Уваходзячая перапіска ад устаноў па пытаньнях прынцыповага характару і скаргі на апарат даюцца сэкратаром раней на прагляд адпаведнаму кіраўніку.

Паперы вельмі важнага характару, якія патрабуюць выкананьня ў пэўныя тэрміны і кантролю за сваечасовым выкананьнем, сэкратар бярэ на кантроль пры дапамозе дзённага кантрольнага рэестру. На звычайным аркушы паперы вызначаецца пытаньне, якое патрабуе выкананьня, нумар выканаўцы і тэрмін выкананьня. Пры паступленьні выкананай паперы ў архіў закрэсьліваецца ў рэестры нумар выканаўцы.

Уся паступаючая перапіска да выканаўцы праглядаецца ім зараз-жа. Паперы тэрміновыя і тэлеграмы, якія патрабуюць адказу, адкладаюцца для выкананьня ў той-жа дзень. Астатнюю перапіску, якая мае характар складаных адказаў, выконвае ў устаноўленыя тэрміны.

Пры складаньні ініцыятыўных лістоў выканаўца поўнасьцю паказвае адрас атрымальніка і ставіць на лісьце свой сталы нумар, нумар справы і даты. Гэта зьяўляецца выходзячым нумарам. Вось прыклад: выканаўца 01 піша па пытаньню справы № 4-16/V ставіць № 014-16/V; першыя дзьве лічбы зьлева заўсёды паказваюць нумар выканаўцы.

Пры складаньні лістоў з адказамі трэба пунктуальна спасылацца на нумар, дату і зьмест ліста карэспандэнта. Такім чынам, выходзячым нумарам зьяўляецца нумар выканаўцы, № справы і дата.

Перадача адным выканаўцам другому лістоў, якія браліся для кантролю, праводзіцца праз сэкратара. Уся перапіска па выкананьні зараз-жа аддаецца ў канцэлярыю, дзе адзін экзэмпляр накіроўваецца адрасату, а адзін кладзецца ў справу. Усе падрыхтаваныя для перадруку чарнавікі выканаўца павінен пісаць зразумелым, чытэльным почыркам, ухіляючыся перакрэсьліваньняў і ўставак. У тэхнічны распарадак штодзённай працы выканаўцаў уводзяцца наступныя асноўныя прынцыпы: хаваньне папер для выкананьня ў папкі, хаваньне папер у другім парадку (скрынках і партфэлях) не дапушчаецца. Пісаць у аднэй адносіне толькі па адным пытаньні. Невялікія адказы па пытаньнях дробнага характару пісаць ад рукі на службовых пісульках пад капірку ў 2 экзэмплярах.

Звычайныя паперы па пытаньнях інфармацыйнага характару павінны мець адзін подпіс выканаўцы. Паперы па важных пытаньнях павінны выходзіць за двума подпісамі: кіраўніка установы і выканаўцы.

У выпадках, калі кіраўнік адсутнічае (у камандыроўцы), паперы перадаюцца яго намесьніку; пры гэтым намесьнік пры выкананьні папер па пытаньнях, уваходзячых у кола дзейнасьці выканаўцы, ставіць нумар апошняга.

Уся перапіска, зробленая выканаўцамі, зараз-жа здаецца ў канцэлярыю. Пры складаньні ініцыятыўных лістоў выканаўца здае ў канцэлярыю абодва экзэмпляры, па лістох з адказамі ён аддае і ўваходзячую паперу. У тых выпадках, калі па ўваходзячай адносіне патрабуецца адказ ад карэспандэнта ў пэўны тэрмін, другі экзэмпляр не кладзецца ў справу, а хаваецца ў папцы папер, якія чакаюць выкананьня. Усе справы хаваюцца пры канцэлярыі ў шафе, дзе павінны быць пабудованы аддзяленьні для спраў і для асобных выканаўцаў. Раскладка папер па справах павінна вытварацца ў строгай адпаведнасьці клясыфікатара спраў. Да пабудовы спраў трэба падыходзіць самым сур'ёзным чынам. Пры выдачы справы для спраўкі выканаўцу пішацца намесьнікам картонка, дзе адзначаецца, каму дадзена справа.

Вось у асноўных рысах схэма пабудовы безрэгістрацыйнага дзелаводства. Бязумоўна, пры распрацоўцы павінны быць улічаны асаблівасьці кожнае ўстановы. Распрацоўка гэтага пытаньня павінна ісьці самым строгім спосабам, і толькі пасьля гэтага можна перайсьці на новую сыстэму.

Раней за ўсё трэба пабудаваць структуру апарату, пабудаваць правільны і пунктуальны дзелаводчы плян, весьці адпаведную падрыхтоўку, увесь матар'ял прапусьціць праз эканомкамісію, эканомнарады і агульныя сходы супрацоўнікаў, і калі усе гэтыя моманты будуць захованы, то трэба быць упэўненым, што вынікі па палепшаньню пастаноўкі дзелаводзтва будуць дасягнуты.

---

А. Шэндараў

# Значэньне і разьвіцьцё смалакурнай прамысловасьці і другіх леса-хэмічных промыслаў па БССР

Смалакурная справа, хоць і саматужніцкая, мае вялікае значэньне па наступных асноўных момантах.

Як разьмешчаная ў сельскіх мясцовасьцях, яна дасьць магчымасьць, апрача занятай рабочай сілы на самой вытворчасьці, даць пабочны заробак і бяднейшым пластом сялянства як па загатоўцы карчоў, дроў, так і па падвозцы да чыгуначных станцый гатовай прадукцыі.

Вытворчасьць гэта разьвіваецца не на дэфіцытнай сыравіне, а, наадварот, скарыстоўвае рэшткі хваёвых пнёў, якія ня маюць ніякай каштоўнасьці, і часта месца, ачышчанае ад іх, скарыстоўваецца пад пасевы.

Смалакурная вытворчасть цалком забясьпечвае асноўную прамысловасьць СССР, як-та: вагонна-будаўнічыя заводы, тэкстыльную, ляка-фарбовачную, хэмічную і рыбныя промыслы.

Большая частка прадукцыі экспартуецца і па сваёй якасьці задавальняе попыт замежнага рынку. Экспарт адбываецца з двух пунктаў: Архангельскага і Беларусі.

Асаблівае значэньне мае смалакурная вытворчасць Беларусі ў процілегласьць цэнтральным раёнам, дзе вытворчасьць працуе толькі 6—7 месяцаў у год (лістапад-красавік), і дзе яна знаходзіцца на далёкай поўначы па Паўночнай Дзьвіне (Архангельск-Шэнкурск). Адтуль прадукты вытворчасьці дастаўляюцца сплавам усяго толькі адзін раз у год. Смалакурная ная вытворчасьць Беларусі знаходзіцца блізка ад мяжы і чыгуначных станцый, працуе цэлы год, што дае магчымасьць рабіць хуткі тавараварот, рэгулярна забясьпечваць смалапрадуктамі прамысловасьць і рабіць пляна̀вы экспарт.

Пачатак разьвіцьця смалакурэньня па ўсіх раёнах Саюзу трэба аднесьці да пачатку 1900-х гадоў. За час імпэрыялістычнай вайны смалакурная вытворчасьць моцна заняпала, а асабліва ў Беларусі, у выніку чаго шмат якія заводы былі зусім разбураны, а тыя, што засталіся, бязьдзейнічалі. Аднаўленьне гэтай справы пачалося ў 1921-22 годзе, і поўнае разьвіцьцё ў Беларусі яна атрымала за апошнія гады. У сучасны момант яна дасягнула даваеннага ўзроўню і нават пераўысіла яго на 20—25 проц. Калі да вайны налічвалася 300 катлоў, то цяпер іх налічваецца да 375.

Ня гледзячы на тое, што па тэрыторыі Беларусь займае нязначнае месца ў Саюзе, у смалакурнай вытворчасьці выпрацоўка яе складае: па шпігінарнай справе каля 45 проц., а па смале—каля 30 проц. у адносінах да агульнаї выпрацоўкі паказаных прадуктаў па ўсім Саюзе.

Асноўнымі загатоўцамі смалапрадуктаў на поўначы і ў цэнтральных раёнах былі два канкуруючых органы—усерасейскі каапэрацыйны лясны саюз (Усекалес) і прадпрыемства, якое знаходзіцца пад веданьнем ВСНГ—„Лесахім“, але ў 1925-26 годзе Ўсекалес дабіўся пастановы вышэйшых органаў, каб Лесахім пакінуў гэту справу. Пасьля гэтага Ўсекалес пачаў плянава арганізоўваць саматужнікаў у арцелі праз саюзы і застаўся адзіным загатоўцам на поўначы і ў цэнтральных раёнах.

Загатоўцам смалапрадуктаў у Беларусі зьяўляўся дзяржаўны гандаль Беларусі, а пазьней Лесахім, які, пакінуўшы рынкі на поўначы і ў цэнтральных раёнах, не жадаў канчаткова адмовіцца ад загатовак наогул, і ў тым-жа годзе ён пачаў загатоўку ў Беларусі. Апрача паказаных загатоўцаў, Ўсекалес, які меў патрэбу ў прадукцыі Беларусі і ня маючы магчымасьці рабіць загатоўку яе тут, у Беларусі, пачаў купляць шпігінар беларускае вытворчасьці ў Маскве па цэнах, выгадных для смалакураў. Частку прадуктаў дастаўляў франко-склад Ўсекалесу ў Маскве. Такое ненармальнае зьявішча, як закупка Ўсекалесам, з аднаго боку, і канкурэнцыя паміж Дзяржгандальбел і Лесахімам, з другога,—дэзарганізоўвала рынак.

У 1926-27 годзе прамысловая каапэрацыя Беларусі, ў асобе Белкустпрамсаюзу, прыступіла, згодна пастановы ЭКАНА, да пабудовы і каапэраваньня смалакурнага промыслу і пачала плянавую загатоўку смалапрадуктаў, рэалізоўваючы яе праз Ўсекалес, які ў сваю чаргу даў абавязацельства не набываць смалапрадуктаў беларускае вытворчасьці, апрача Белкустпрамсаюзу. Такім чынам, дзякуючы наладжанасьці плянавай загатоўкі і выцясьненьню прыватніка, пытаньне аб урэгуляваньні рынку загатовак насьпела, у выніку чаго ў 1928 г. Лесахім, згодна пастановы вышэйшых органаў, быў таксама зьняты і з беларускага рынку.

БКПС параўнаўча за кароткі час удалося абсталяваць на арцельных пачатках 100 новых смалакурных катлоў, а таксама каапэраваць у арцель 65 смалакураў-адзіночак са сваімі катламі. Паказаная колькасьць катлоў складае 45 проц. да агульнай колькасьці катлоў у Беларусі, прадукцыя іх складае штогодна каля 2.500 тон шпігінару і 6000 тон смалы на суму, лічачы па рэалізацыйных цэнах, 1.500.000 руб. У некаторых раёнах новае будаўніцтва часткова затрымлівалася тым, што Дзяржгандальбел і

райвыканкомы пачалі займацца будаўніцтвам заводаў, а гэта часта адбівалася на водпуску лясных вучасткаў, і трэба адзначыць, што смалакурная вытворчасьць, як чыста-саматужніцкая, ня можа апраўдаць сябе пры дзяржаўным будаўніцтве і ў дзяржаўным маштабе.

Па асобных раёнах памянёная вышэй колькасьць катлоў разьмяркоўваецца наступным чынам:

| | | |
|---|---|---|
| Магілеўскі раён | 32 | проц. |
| Бабруйскі „ | 21 | „ |
| Гомельскі „ | 20 | „ |
| Менскі „ | 18 | „ |
| Віцебскі „ | 6 | „ |
| Аршанскі „ | 3 | „ |

Існуючая колькасьць катлоў абслугоўваецца на вытворчасьці сталым лікам рабочых (каля 700 чал.), апрача сэзонных рабочых па карчаваньню пнёў, падвозцы іх, рэзцы дроў і г. д. з ліку бяднейшых сялян, што жывуць блізка смалакурных заводаў—лік іх дасягае 4000 чал.

Апрача прадукцыі арцельных заводаў, БКПС з самага пачатку працы рэалізаваў смалапрадукты крэдытна-прамысловых т-ваў, якія яны атрымлівалі ад сваіх пайшчыкаў смалакураў. Гэты мэтад лічыўся як часовы і як першая ступень для каапэраваньня смалакура, але па меры павялічэньня каапэраваньня ў арцелях, праца праз крэдытна-прамысловыя т-вы паменшылася і ў сучасны момант складае якіх-небудзь 5 проц. загатоўкі праз арцелі. Да кастрычніка 1929 г. ёсьць намер спыніць такую працу зусім, узмацніўшы сваю ўвагу на каапэраваньні ў арцелях.

Дапушчаемую, згодна пляну БКПС на 1928-29 год, пабудову 50 новых смалакурных заводаў і каапэраваньне 50 смалакураў-адзіночак, трэба думаць, ўдасца правесьці ў жыцьцё.

Трэба адзначыць, што хуткі тэмп росту арганізацый арцеляў ня мог даць сапраўдную форму каапэраваньня, якая-б поўнасьцю задаволіла патрабаваньні прамысловай каапэрацыі, як напрыклад: сацыяльны склад сяброў арцелі, павялічэньне колькасьці сяброў за лік рабочых па капаньню карчоў, возчыкаў і г. д.

У сучасны момант робіцца шэраг захадаў да поўнага афармленьня і згрупаваньня дробных арцеляў у больш магутныя (да 10 катлоў) і прыцягненьня ў арцелі капальшчыкаў і возчыкаў.

Аднак-жа, трэба адзначыць, што БКПС з прычыны адсутнічаньня вытворчага інструктажу вельмі мала зрабіў у адносінах да інструктаваньня і вывучэньня вытворчасьці з мэтаю яго палепшаньня, у выніку чаго мела месца дэфіцытнасьць некаторых арцеляў, якія былі створаны неарганізавана. У сучасны момант, аб'яднаўшы значную колькасьць смалакурных катлоў і ідучы яшчэ да павялічэньня, неабходна мець сталае нагляданьне за ўдасканаленьнем вытворчасьці, рацыянальным скарыстоўваньнем укладваемых дзяржаўных сродкаў і г. д., тым больш, што пры такой колькасьці заводаў выдаткі па інструкстажу ня змогуць абцяжарыць вытворчасьці, а, наадварот, будзе магчымасьць павялічыць і палепшыць выпускную прадукцыю. Неабходна адзначыць яшчэ недастатковае абсьледваньне арг. аддзелам БКПС смалакурных заводаў.

Грашовае становішча арцеляў трэба лічыць ня зусім здавальняючым бо для абсталяваньня катла давалася ў сярэднім каля 1000—1500 руб. у той час, як гэта каштуе каля 3.500 руб., у выніку чаго з самага пачатку

абсталяваньня адчуваўся ўжо недахоп сродкаў, тым больш, што доўгатэрміновыя пазыкі, якія выдае Усекабанк, павінны выплачвацца ў працягу аднаго-двух год, і за такі пэрыод кацёл бязумоўна ня зможа сябе выкупіць.

За апошні час загатоўка смалы значна абцяжарваецца тым, што арцелі ня могуць задавальняць патрабаваньняў сялян у выдачы ім, у час загатоўкі карчоў, хлеба-фуражу. У далейшым з мэтай палепшаньня пастаноўкі смалакурнай вытворчасьці і пазбаўленьня недахопаў, якія мелі месца да сучаснага моманту, неабходна:

1) стварыць сталы вытворчы інструктаж;

2) узмацніць увагу арг. аддзелу на плянавым абследваньні арцеляў;

3) узбудзіць хадайніцтва перад усекабанкам аб адтэрмінаваньні хоць часткі крэдыту, які выдаецца на пабудову катлоў;

4) для сваечасовай загатоўкі арцелямі карчоў і дроў і патаненьня іх каштоўнасьці паставіць пытаньне перад Наркамгандлем аб прыраўнаньні загатоўкі карчоў і дроў да загатоўкі лесаматар'ялаў і выдачы хлеба-фуражу капальшчыкам і возчыкам.

5.Дамагчыся забароны рабіць каму ўздумаецца пабудовы смалакурных заводаў, цалком ахапіўшы каапэраваньне гэтага промыслу па прыкладу поўначы і цэнтральных раёнаў.

Сьпіртусова-парашковы промысел займае досыць значнае месца, як тавар, замяняючы імпартны, і выпрацоўвае прадукцыю, неабходную для хэмічнай прамысловасьці і друг.

Паказаны промысел моцна разьвіты ў Сярэдня-Вятлускім раёне Ніжагародзкай губэрні, дзе маецца да 1200 установак (казаноў), але гэта колькасьць цалком не задавальняе прамысловасьці. Па пастанове вышэйшых органаў гэта вытворчасьць павінна быць павялічана да пачатку 1929-30 г. па колькасьці да 2000 казаноў, у тым ліку 100 казаноў на Беларусі.

Пасьля наведваньня Вятлускага раёну (РСФСР) з мэтаю вывучэньня пастаноўкі гэтае справы БКПС прыступіў да арганізацыі яе і ў Беларусі, для чаго запрошан ужо спэцыялісты праводзіць гэту працу.

Адзінаю цяжкасьцю ў сучасны момант зьяўляецца існуючая гандлёвая наддача на драўніну, пры якой вытворчасьць ня можа сябе апраўдаць. БКПС узбудзіў хадайніцтва перад ЭКАНА аб плянавым водпуску дроў на паказаны промысел без гандлёвай надбаўкі, на што атрымана прынцыповая згода. Трэба спадзявацца, што важнасьць гэтага промыслу будзе ўлічана, і пытаньне будзе вырашана ў дадатны бок, пасьля чаго у кастрычніку месяцы гэтага году ўдасца абсталяваць паказаныя 100 казаноў і пусьціць іх у ход.

У Вятлускім раёне гэтая вытворчасьць, як і смалакурная, працуе 6—7 месяцаў у год, у Беларусі-ж ёсьць намер вытвараць у працягу году і пры тым пры больш удасканаленых установках.

Ёсьць намер паставіць магутную ўстаноўку, якая будзе пераапрацоўваць з дрэўнага сьпірту-сырцу чысты спірытус, моцнасьцю ў 98°.

Выпрацоўка каніфолю ня мае яшчэ масавага характару. На Вахтані існуе буйны дзяржаўны каніфольны завод, які ня ўсюды можа быць прыстасаваны. У Беларусі ўпяршыню ў Гомельскім раёне будзе абсталяваны на арцельных пачатках завод, каштоўнасьцю па каштарысу ў 50.000—60.000 руб. Неабходнае абсталяваньне ўжо амаль цалком маецца, і ёсьць надзея, што ў бліжэйшы час завод пачне працаваць.

Выпрацоўка каніфолі будзе вытварацца экстракцыйным спосабам з хваёвых пнёў, вытворчасьць разьлічана на 1000 к. с. карчоў у працягу году.

Дзёгцякурэньне. Выпрацоўка бярозавага дзёгцю з бярозавае кары ў Беларусі амаль не рабілася. Гэты промысел асабліва разьвіты ў цэнтральных раёнах, але за апошнія гады вытворчасьць цалком не здавальняе попыту. У Віцебскім і Полацкім раёнах часткова прыступлена ўжо да выпрацоўкі паказанай прадукцыі.

Пры вытворчасьці дадзенай прадукцыі ёсьць намер скарыстаць кару, якая ачышчаецца ад бярозавых дроў, што ідуць на вытворчасьць сьпірытусовага парашку.

---

Кудзінаў

# Асноўныя капіталы і фінансавае становішча калгасаў

## Рост асноўных капіталаў калгасаў

Значную ролю ў справе ўзмацненьня калгасаў БССР набыла перадача ім у 1927 годзе ў працоўнае карыстаньне дзяржаўных зямельных угодзьдзяў і садоў, а таксама перадача ў беззваротнае карыстаньне будынкаў і інвэнтару.

Да перадачы дзяржаўнай зямельнай маёмасьці ў працоўнае карыстаньне калгасам, значная колькасьць апошніх ня імкнулася да таго, каб утрымліваць у належным выглядзе будынкі і інвэнтар, у выніку чаго яны кожны год разбураліся.

Загэтым агульная каштоўнасьць будынкаў і інвэнтару ў калгасах начала значна падвышацца толькі з 1927-28 гадоў.

Забясьпечанасьць калгасаў асноўнымі капіталамі за апошнія тры гады наступная.

У 1925-26 годзе:

| Віды капіталаў | Агульная каштоўнасьць (тыс. руб.) | Ў сярэднім на 1 калгас руб | Ў сярэднім на 1 гэкт. пашні руб. |
|---|---|---|---|
| Будынкі | 1692,9 | 4458 | 59,4 |
| Мёртвы інвэнтар | 387,6 | 1019 | 13,6 |
| Жывы інвэнтар | 817,9 | 2152 | 28,7 |
| Усяго | 2898,4 | 8629 | 101,7 |

Па будынках паказана каштоўнасьць ня толькі жыльлёвых і гаспадарчых будынкаў, а гэтаксама і каштоўнасьць будынкаў тэхнічных прадпрыемстваў.

У 1926-27 годзе:

| Віды капіталаў | Агульная каштоўнасьць (тыс. руб.) | Ў сярэднім на 1 калгас руб. | Сярэдняя на 1 гэкт. пашні | % % прыросту за год |
|---|---|---|---|---|
| Будынкі | 2509,3 | 5654 | 75,4 | 48,2 |
| Мёртвы інвэнтар | 495,9 | 1118 | 14,9 | 27,9 |
| Жывы інвэнтар | 1121,5 | 2527 | 33,7 | 37,1 |
| Усяго | 4126,7 | 9299 | 124,0 | 42,4 |

У параўнаньні з 1925-26 годам усе віды асноўных капіталаў па калгасах БССР узрасьлі на 42,4 проц. Асабліва значны прырост наглядаецца па будынках (на 48,2 проц.) і найменшы—па мёртваму інвэнтару (на 27,9 проц.).

У 1927-28 годзе:

| ВІДЫ КАПІТАЛАЎ | Агульная капітоўнасьць (тыс. руб.) | Ў сярэднім на 1 калгас руб. | Ў сярэднім на 1 гэкт. пашні руб. | % % прыросту за год |
|---|---|---|---|---|
| Будынкі | 6927,9 | 8052 | 131,68 | 176,1 |
| Мёртвы інвэнтар | 1576,3 | 1832 | 29,96 | 217,9 |
| Жывы інвэнтар | 3281,9 | 3815 | 62,38 | 192,6 |
| Усяго | 11786,1 | 13699 | 224,02 | 185,6 |

Аднак, у параўнаньні з прынятымі нормамі, проц. забясьпечанасьці калгасаў БССР у 1927-28 г. зьяўляюцца наступнымі:

У будынках . . . . . 65,8
У мёртв. інвэнт. . . . 60,0 Па ўсіх відах асноўных капіталаў—64 проц.
У жывым інвэнт. . . . 62,4

Такім чынам, забясьпечанасьць калгасаў капіталам усё-ж недастатковая.

Аднак, за апошнія гады наглядаецца тэндэнцыя росту ўсіх відаў асноўнага капіталу, у асаблівасьці у мёртвым інвэнтары.

Слабей рост капіталаў на набыцьцё жывёлы, што тлумачыцца недахопам выдадзеных на закупку жывёлы крэдытаў, а таксама невялікай колькасьцю племяннной жывёлы і асабліва добраякаснай прадукцыйнай жывёлы на рынку.

Вялікі недахоп жыльлёвых і гаспадарчых будынкаў у калгасах зьяўляецца значнай перашкодай у справе нармальнага ўкамплектаваньня насельніцтва старых калгасаў, а таксама часта затрымлівае абагуленьне калгасамі прадукцыйнай жывёлы.

Паасобнымі відамі абагуленай жывёлы калгасы забясьпечаны па разьліку на 100 гэк. пашні ў наступным разьмеры:

| ВІДЫ ЖЫВЁЛЫ | У 1925-26 г. | У 1926-27 г. | У 1927-28 г. |
|---|---|---|---|
| Рабочыя коні | 8,8 | 9,8 | 9,0 |
| Каровы | 10,6 | 22,1 | 28,04 |
| Сьвіньні | 3,2 | 4,4 | 3,7 |
| Авечкі | 13,3 | 16,1 | 11,6 |

У мінулым годзе ў калгасах трохі паменшылася колькасьць дробнай жывёлы. Гэта тлумачыцца тым, што значная колькасьць нанова арганізаваных калгасаў яшчэ не прыступіла да абагуленьня дробнай жывёлы, якая ўтрымліваецца ў індывідуальным парадку.

За апошнія гады суадносіны індывідуальнай і абагуленай частак асноўнага капіталу калгасаў зьмяніліся ў бок узмацненьня элементаў абагуленьня, што і відаць з наступнага:

| Віды капіталаў | 1926-27 год | | 1927-28 год | |
|---|---|---|---|---|
| | Абагулены | Індывідуальны | Абагулены | Індывідуальны |
| Будынкі | 83,3 | 16,7 | 88,0 | 12,0 |
| Мёртвы інвэнтар | 87,8 | 12,2 | 95,0 | 5,0 |
| Жывы інвэнтар | 72,9 | 27,1 | 83,5 | 16,5 |

Асноўныя капіталы ўзрастаюць у калгасах як за лік унутры-гаспадарчых накапленьняў, так і за лік адпускаемых калгасам крэдытаў.

Водпуск крэдытаў калгасам (як доўгатэрміновых, так і кароткатэрміновых) с кожным годам павялічваецца. Гэта відаць з наступнага:

| Гады | Доўгатэрміновыя крэдыты і фонды | Кароткатэрміновыя крэдыты | Усяго |
|---|---|---|---|
| 1925-26 | — | — | 442,3 тыс. руб. |
| 1926-27 | 433,0 тыс. руб. | 139,0 тыс. руб. | 572,0 " " |
| 1927-28 | 1707,0 " " | 289,0 " " | 1996,0 " " |
| 1928-29 (намечана) | 3676,0 " " | 887,0 " " | 4563,0 " " |



Аднак, ня гледзячы на штогоднае значнае павялічэньне адпушчаемых калгасам крэдытаў, да апошняга часу яны ўсе-такі недастаткова забясьпечаны асноўнымі капіталамі.

Асабліва востры недахоп адчуваецца ў жывёле. На больш поўнае забясьпечаньне жывёлай калгасаў у далейшым павінны зьвярнуць асаблівую ўвагу абслугоўваючыя гэтыя калгасы каапэрацыйныя і зямельныя органы.

## Фінансавае становішча калгасаў

Заключны балянс па 347 калектыўных гаспадарках паказвае, што сродкі гэтых калгасаў дасягаюць 9.023.048 руб.

Галоўная частка гэтых сродкаў закладзена ў асноўныя капіталы калгасаў. Так, 6.298.088 руб., альбо 69,8 проц. ад усяго балянсу, зьяўляюцца асноўнымі капіталамі калгасаў.

19,7 проц. балянсу, што складае 1.777.647 руб., знаходзяцца ў прадуктах, матар'ялах і рознай іншай маёмасьці, а таксама ў выдатках за лік будучых гадоў.

Крыніцамі для ўсіх гэтых памянёных сродкаў зьяўляюцца перш-наперш уласныя капіталы калгасаў—67,6 проц. балянсу, альбо 6.100.000 р.; потым ідуць пазычковыя сродкі—32,4 проц. балянсу, альбо 2.924.600 р.

Пазычковыя сродкі складаюцца з укладаў сяброў калгасаў (3,4 проц. ад балянсу), запазычанасьці калгасаў сябрам (3 проц.) і запазычанасьці розным крэдытным установам і прыватным асобам (24,7 проц.).

Уласныя сродкі калгасаў разьмяркоўваюцца на падзельныя і непадзельныя. Непадзельныя капіталы складаюцца з перададзенай калгасам

дзяржаўнай зямельнай маёмасьці (37,9 проц. балянсу, альбо 3.379.000 р.), а таксама з адлічэньняў калгасаў ад сваіх прыбыткаў (4,1 проц. балянсу, альбо—372.933 руб.).

За апошнія гады непадзельныя капіталы калгасаў значна ўзрасьлі. Так, калі ў 1926-27 годзе непадзельныя капіталы складалі на 1 калгас 8717 руб., то ў 1927-28 годзе яны павялічыліся да 10.813 руб.

На 1 гэктар пашні калгасаў непадзельных капіталаў прыходзілася ў 1926-27 годзе 116 руб., а ў 1927-28 годзе—177 руб., што дае павялічэньне на 52,6 проц.

За гэты час таксама павялічыліся і паявыя ўзносы ў калгасах: у 1926-27 годзе на 1 калгас прыходзілася паявых ўзносаў на суму 1316 р., а ў 1927-28 г.—2.423 руб.

На 1 гкт. пашні пай павялічыўся з 17,5 руб. у 1926-27 г. да 40 р. у 1927-28 годзе, што дае павялічэньне на 128 проц.

Аднак, разам павялічылася і запазычанасьць калгасаў: калі ў 1926-1927 годзе запазычанасьць крэдытным установам і прыватным асобам складала 2.982 руб. на 1 калгас, альбо 40 руб. на 1 гк. калгаснай пашні, то ў 1927-28 годзе гэта запазычанасьць павялічылася на 1 калгас да 6.427 руб., альбо да 105 руб. на 1 гк. калгаснай пашні (запазычанасьць калгасаў павялічылася на 162 проц.).

Адначасова ў калгасах павялічваецца каштоўнасьць асноўных капіталаў.

На 1 гк. пашні калгасаў у 1926-27 годзе прыходзілася асноўных капіталаў па 174 руб., а ў 1927-28 г. іх каштоўнасьць павялічылася да 296 руб. на 1 гк., альбо на 70 проц.

Такім чынам, пры павялічэньні запазычанасьці калгасаў на 1 гк. у 65 руб., каштоўнасьць асноўных капіталаў павялічылася на 122 руб. на 1 гк. Гэта азначае, што за лік унутры-гаспадарчых накапленьняў і паявых узносаў, а таксама ўкладаў членаў калгасаў асноўныя капіталы калгасаў павялічыліся ў 1927-28 годзе на кожны гэктар пашні на 57 р., што складае 46,7 проц. агульнага прыросту.

**Праз сацыялістычнае спаборніцтва ўзмацнім нашу каапэрацыю, палепшым яе працу. Каапэратары, пайшчыкі, пішэце ў часопіс „Каапэрацыя БССР“ аб тым, як праходзіць сацыялістычнае спаборніцтва на месцах, пішэце пра недахопы і дасягненьні вашага каапэратыву**

# ПРАКТЫКА НАШАЕ ПРАЦЫ

А. А.

## Прамкрэдтаварыствы-карэспандэнты Ўсекабанку

Усекабанк з пачатку свайго існаваньня да 1928 году ўсю сваю працу па крэдытаваньню каапэрацыі Беларусі ўсіх відаў і сыстэм праводзіў непасрэдна праз свой апарат у гор. Менску. Рабіць гэта Ўсекабанк быў прымушан з тае прычыны, што разгортваць сваю сетку агэнцтваў было немэтазгодна, бо гэта выклікала непатрэбныя выдаткі на апарат. Адначасова ўлічваючы неабходнасьць большае сувязі каапэрацыі з банкам і большага абслугоўваньня яе па даручэньнях, Усекабанк зрабіў вопыт па наладжваньню свае карэспандэнцкае сеткі праз сампракаапэрацыю. Ён абраў для правядзеньня ў жыцьцё сваіх мерапрыемстваў прамыслова-крэдытныя таварыствы толькі таму, што банк прымаў вялікі ўдзел у складаньні і разьвіцьці гэтае сыстэмы па наладжваньню грашовае гаспадаркі і арганізацыі яе.

Вопыт, бязумоўна, удаўся і сябе апраўдаў. Усекабанк на 1 ліпеня гэтага году мае ва ўсіх акруговых гарадох сваіх карэспандэнтаў, крэд. прамысл. т-вы. Сетка карэспандэнтаў банкам апрацована і будзе пашырацца на мястэчкі, маючыя эканамічнае значэньне і важную ролю ў каапэрацыі. Узаемаадносіны банку і крэдытна-прамысловых таварыстваў, як карэспандэнтаў, вызначаны ў асобных даговарах, дзе вызначаны правы і абавязкі таварыства адносна банку і банку да таварыстваў.

Некалькі слоў аб задачах карэспандэнцкае працы. Галоўнаю задачаю карэспандэнцкае ўмовы неабходна адзначыць устанаўленьне парадку ўзаемнага абслугоўваньня і выпаўненьня пераводных і платных даручэньняў ў межах адчыненых узаемна лімітаў. У межах вызначнае сумы кожны бок (банк і таварыства) можа даваць загады аб выплаце пераводных даручэньняў без пакрыцьця апошніх наяўнымі грашыма. Толькі даручэньні, якія пасылаюцца бакамі звыш вызначаных карэспандэнцкаю ўмоваю сум, абавязкова пакрываюцца дататкова тэю стараною, якая дала гэтае даручэньне, не прадугледжанае ўмоваю. Акрамя пераводнае апэрацыі па карэспандэнцкай умове, прамыслова-крэдытныя таварыствы (карэспандэнты банку) выконваюць інкасавыя даручэньні па атрыманьні сум па вэксалёх ці другіх дакумэнтах і перадаюць гэтыя сумы карэспандэнту, ад якога былі атрыманы на інкасо. Гэтую працу карэспандэнты банку могуць рабіць ня толькі ў межах Беларусі, але і па ўсяму СССР, калі гэта абгаварваецца асобна з таварыствам Карэспандэнцкія апэрацыі зусім не складаныя, і прамыслова-крэдытныя таварыствы выконваюць іх добра.

Прасочым, што даюць гэтыя апэрацыі самому таварыству, і ці мэтазгодна весьці гэтую працу. Калі ўважліва прыгледзецца да гэтае працы, дык выгады відавочны: перш-на-перш таварыствы ўвязваюцца з банкамі, робяцца зьвяном банкаўскае сыстэмы; гэтыя апэрацыі надаюць ім твар банкаўскае ўстановы, праз якое трэція асобы могуць рабіць і атрымліваць пераводы, рабіць акрэдытыўныя апэрацыі, здаваць вэксалі і дакумэнты на інкасо і атрымліваць па іх грошы і г. д. Гэтыя апэрацыі ў сваю чаргу

даюць таварыствам бягучыя рахункі і ўклады, узмацняюць касавы зварот, падымаюць аўтарытэт таварystваў сярод насельніцтва, а адсюль таварыствы ўзмацняюцца.

Апрача гэтага, таварыствы за сваю працу атрымліваюць камісійныя ўзнагароды, якія таксама павялічваюць прыбыткі таварыства, не выклікаючы павялічэньня штату, а толькі патрабуючы большае рацыяналізацыі працоўнага дню існуючага апарату. Праца карэспандэнтаў банку ня скончваецца толькі паказанымі задачамі і абавязкамі. Карэспандэнт можа быць прыцягнуты банкам выконваць і другія даручэньні банку, як крэдытаваньне каапэрацыйных арганізацый свайго раёну за рахунак банку. Гэты вопыт Усекабанк правёў з Бабруйскім, Віцебскім, Аршанскім і Магілеўскім прамыслова-крэдытнымі таварыствамі, заключыўшы з імі камісійны дагавор на крэдытаваньне саматужнае і інваліднае каапэрацыі. Па камісійнаму дагавору, па даручэньню Усекабанку на асобных ўмовах і па інструкцыях банку паказаныя таварыствы крэдытуюць каапэрацыйныя арганізацыі, пайшчыкаў Усекабанку ў сваіх акругах.

Крэдытаваньне каапэрацыйных арганізацый, згодна дагавору, таварыствы праводзяць ад свайго імя за рахунак Усекабанку. Дзеля ажыцьцяўленьня памянёнае працы па крэдытаваньню Усекабанк устанаўлівае таварыству агульны ліміт з разьмеркаваньнем яго па паасобных каапэрацыйных арганізацыях і вылучае таварыству неабходныя сродкі па асобнаму з ім рахунку і асобна вызначанаму проценту. У межах вызначаных лімітаў дзеля кожнае арганізацыі таварыствы праводзяць крэдытаваньне апошніх самастойна, устанаўліваючы разьмеры паасобных выдач крэдытаў і тэрміны пагашэньня, прадугледжаныя інструкцыямі і правіламі банку. Формы забясьпечаньня выдаваемых крэдытаў для паасобных арганізацыі ўстанаўліваюцца Усекабанкам. Вэксальны партфэль застаецца на захаваньне ў таварыстве, каб не рабіць лішняе перасылкі вэксалёў у банк і назад з банку для атрыманьня пляцяжоў па іх. Але ў неабходных выпадках банк можа патрабаваць прысылкі яму вэксалёў.

Асобных запатрабаваньняў у вядзеньні рахункаводзтва банк ня высоўвае. Таварыствы ў сваім балянсе толькі зьмяшчаюць два новых рахункі: у актыве—„Пазыкі, выдадзеныя за рахунак Усекабанку на камісійных пачатках"—і па пасыву—„Сродкі, атрыманыя для крэдытаваньня на камісійных пачатках па даручэньню". Аб выдадзеных пазыках каапэрацыйным арганізацыям за рахунак банку таварыствы штомесячна прысылаюць банку пазыцыю па запазычанасьці каапэрацыйных арганізацый, перададзеных банкам па асобнаму сьпіску па зусім простай форме.

Каапэрацыйныя арганізацыі, якія крэдытуюцца праз крэдытныя таварыствы, ніякае справаздачнасьці не пасылаюць банку, а пасылаюць толькі квартальную справаздачу таварыству (яны пасылалі і раней таварыствам), на падставе якой таварыства ўлічвае грашовае і гаспадарчае становішча тае ці іншай арганізацыі.

Перавод на крэдытаваньне банкам сваіх пайшчыкаў праз карэспандэнта мае свае вынікі: каапэрацыйныя арганізацыі больш увязаліся па працы з Усекабанкам; зьменшаны выдаткі каапэрацыі па камандыроўках і перасылцы грошай; назіраецца больш рацыянальнае і сваечасовае скарыстаньне банкаўскага крэдыту, а таксама павялічыўся і рост пайшчыкаў банку. У бліжэйшы час банк пераводзіць на крэдытаваньне сваіх пайшчыкаў у астатніх акруговых гарадох і буйных мястэчках, дзе маюцца карэспандэнты.

У наступным нумары будзе дадзена характарыстыка працы больш падрабязгова па кожнай акрузе.

**Шаевіч**

# Праца сельска-гаспадарчага крэд. саюзу за 3 кварт. па забясьпечаньню таварамі

1. З пачатку году плян па забясьпечаньню быў складзен на суму 1.813.275 р., а пасьля ў зьвязку з ліквідацыяй Цэнтраземскладу ў студзені месяцы перагледжан з павялічэньнем да 2.359.871 руб.; з гэтае сумы падае:

| | | |
|---|---|---|
| а) на сельска-гасп. машыны | 800.000 | руб. |
| б) „ насеньне і мінэральнае ўгнаньне | 500.000 | „ |
| в) „ жалеза, цьвікі, цэмэнт і інш. прам. тавар. | 59.871 | „ |

2. За першыя 3 кварталы меркавалася загатаваць 75 проц. пляну, а ў сапраўднасьці загатоўлена 63 проц., альбо на суму 1.500 тыс. руб.

Загатоўка тавараў па кварталах:

| | | |
|---|---|---|
| у 1-м квартале | на 165.000 | руб. |
| „ 2-м „ | „ 606.000 | „ |
| „ 3-м „ | „ 729.000 | „ |
| Разам | 1.500.000 | руб. |

Загатоўка тавараў на ўказаную суму вытварана:

| | | |
|---|---|---|
| а) праз Белсельсаюз | на 687.000 | руб. |
| б) прынята ад Цэнтраземскладу | „ 300.000 | „ |
| в) праз інш. дзярж. каап. установы | „ 513.000 | „ |
| Разам | 1.500.000 | руб. |

З ліку тавараў, прынятых ад Цэнтраземскладу, маюцца тавары на суму да 50 тыс. руб., якія будуць ляжаць гадамі.

У групу тавараў, загатоўленых ад іншых дзяржаўных і каапэрацыйных установаў, уваходзяць:

| | | |
|---|---|---|
| а) рознае насеньне | на 133.000 | руб. |
| б) скабяныя тавары і інш. будаўнічыя матар'ялы | „ 200.000 | „ |
| Разам на | 333.000 | руб. |

3. Пачынаючы з II-га кварталу сельска-гасп. машыны накіроўваюцца па частковай сетцы на 75 проц. транзытам. Практыкі транзітнага завозу іншых тавараў амаль-што ня было.

4. З колькасьці загатоўленых тавараў прададзена:

| | | |
|---|---|---|
| а) у 1-м квартале | на 110.000 | руб. |
| б) „ 2-м „ | „ 274.000 | „ |
| в) „ 3-м „ | „ 866.000 | „ |
| Разам | 1.250.000 | руб. |

З гэтай колькасьці прададзена:

| | | |
|---|---|---|
| а) машын | на 350.000 | руб. |
| б) насеньня і мінэральнага ўгнаеньня | „ 360.000 | „ |
| в) іншых тавараў | „ 540.000 | „ |
| Разам | 1.250.000 | руб. |

Налажэньне на ўсе тавары не перавышае разьмераў, устаноўленых Наркамгандлем.

5. Пры здавальненьні запатрабаваньняў пасеўкампаніі мелі месца наступныя недахопы ў працы: а) ня поўнасьцю здаволен попыт на зернеачышчальныя машыны, хаця адпушчана іх было больш, чым прадугледжвалася па пляну; так, сартыровак па пляну прадугледжана 111, а адпушчана

120, альбо 10 проц. пляну, і трыераў па пляну прадугледжана 39, а адпушчана 57 штук, альбо 149 проц. пляну; аднак, гэтаю колькасьцю здаволена запатрабаваньне ня больш як на 75 проц.; б) быў невялікі перабой у забесьпячэньні некаторых раёнаў плугамі, дзякуючы затрымцы заводу з іх адгрузкаю; в) няпоўнасьцю здаволен попыт на запасныя часткі для плугоў (лямехі, атвалы) за недахопам жалеза; г) няпоўнасьцю здаволен попыт на спрунжынныя бароны, між тым як бароны „зігзаг“ у колькасьці больш 100 штук засталіся на складах; д) няпоўнасьцю здаволен попыт на калійную соль, і зусім ня было завозу тамасшлаку. Недастаткова было ўлічана запатрабаваньне ў мінэральным угнаеньні асобных раёнаў, што выклікала неабходнасьць перавозкі з аднаго раёну ў другі і пацягнула за сабою страты.

6. З пачатку году і цяпер адчуваецца вялікі недахоп у розным сартавым жалезе, цьвікох, цэмэнце і часткова ў скабяных таварах; патрэба ў апошніх некалькі пакрываецца шляхам закупкі іх, апрача Белсельсаюзу, у другіх дзяржаўных і каапэрацыйных установах.

Дзякуючы недахопу жалеза, у цяжкім становішчы знаходзяцца арганізаваныя вясною гэтага году 29 сельска-гасп. майстэрань.

7. Кепска адбілася на прасоўваньні тавараў у вёску несваечасовасьць высылкі Селькрэдсаюзам сельска-гасп. крэдытным таварыствам рахункаў на тавары, дзякуючы неатрыманьню іх ад Белсельсаюзу.

8. Па дадзеных 23 сельска-гасп. крэд. т-ваў, за 2 кварталы прасоўваньне сельска-гасп. машын да сялянскіх двароў праходзіла ў процантах так:

1. Прададзена калгасам і іншым аб'яднаньням:

а) за наяўныя грошы . . . . . . . . . . . 3 проц.
б) у крэдыт . . . . . . . . . . . . . . 8,4 „

2. Прададзена адзіночкам:

а) за наяўныя грошы . . . . . . . . . . . 34 проц.
б) у крэдыт . . . . . . . . . . . . . . 54,6 „

Па сацыяльнаму складу пакупнікі-адзіночкі разьмяркоўваецца так:

1. За гатоўку:

а) беднякі . . . . . . . . . . . . . . 12,9 проц.
б) серадн́які . . . . . . . . . . . . . 81,4 „
в) заможныя. . . . . . . . . . . . . . 5,7 „

2. У крэдыт:

а) беднякі . . . . . . . . . . . . . . 53,6 проц.
б) серадн́які . . . . . . . . . . . . . 46,1 „
в) заможныя. . . . . . . . . . . . . . 0,3 „

Заможным адзіночкам адпушчана ў крэдыт малатарня, прывод і веялка.

Забясьпечаньне пасеўкампаніі па машынаснабжэньню і угнаеньню:

| | Плугі розн. | Асыпнікі | Бароны | Сеялкі | Сартыроўкі | Трыеры | Мінэральн. угнаеньне |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Патрэбна было па пляну . . . | 6283 | 900 | 2392 | 205 | 111 | 39 | 3600 тон. |
| Фактычна выдадзена . . . . | 5514 | 563 | 1611 | 92 | 120 | 57 | 1320 „ |
| % выкан. . . | 88 | 62 | 69 | 45 | 108 | 149 | 38 |

Нашай задачай цяпер зьяўляецца павялічэньне забясьпечаньня с.-г. сыстэмы ўсімі патрэбнымі машынамі, насеньнем, угнаеньнем і іншымі таварамі для здавальненьня ў першую чаргу калгасаў, саўгасаў, камунаў і бядняцка-серадняцкіх груп насельніцтва.

А. Лебедзеў

# Дасягненьні спажывецкай каапэрацыі БССР з гатовым адзеньнем

Систэма спажыўкаапэрацыі БССР вялікае практыкі ў працы з гатовым адзеньнем ня мае, бо апошняя пачала разьвівацца толькі ў канцы 1926—27 каапэрацыйнага году.

Аднак цікава прасачыць, якія вынікі маюцца за гэты час, і што шкодзіла нармальнаму разьвіцьцю працы з вырабамі швейнай прамысловасьці.

Звароты Белкаапсаюзу па рэалізацыі гатовага адзеньня за мінулыя два с паловай гады былі наступныя:

| | |
|---|---|
| 1926—27 г. | 652 тыс. руб. |
| 1927—28 г. | 3827 „ „ |
| 1928—29 г. (арыентыровач.) | 8060 „ „ |

Такім чынам мы бачым, што звароты кожны год значна павялічваюцца, пры чым побач з ростам зваротаў у абсалютных сумах удзельная вага па рэалізацыі гатовага адзеньня ў агульным тавараздвароце таксама павялічваецца, а менавіта:

1926-27 г. удзельн. вага гат. адзеньня ў агульн. тавараразвар. БКС склад. 1,3%
1927-28 г. „ „ „ „ „ „ „ „ 4 „
1928-29 г. (першае паўгодзьдзе) „ „ „ „ „ 6,4 „

Звароты па рэалізацыі гатовага адзеньня райсаюзаў і ЦРК характарызуюцца наступнымі дадзенымі:

| | Сума у тыс. руб. | % удзелу БКС у зваротах райсаюзаў і ЦРК |
|---|---|---|
| 1926—27 г. . . . | 1113,1 | 58,5% |
| 1927—28 г. . . . | 4602,5 | 83,1 |
| 1928—29 г. . . . | 2750,5 | 78,1 (па няпоўн. вест. 1 кв.) |

З пададзеных вестак мы бачым, што з першага году свае працы з гатовым адзеньнем Белкаапсаюз у арганізацыі працы спажывецкай сыстэмы з гэтым таварам адразу заняў значнае месца, прымаючы ўдзел у яе зваротах на 58,5 проц.

Пачынаючы з 1927—28 апэрацыйнага году, калі Белкаапсаюз пачаў заключаць шэраг генэральных умоў як з трэстам, так і з мясцоваю прамысловасьцю, мы наглядаем значны процант яго ўдзелу ў зваротах райсаюзу і ЦРК (з 58,5 проц. у 1926—27 годзе да 83,1 проц. у 1927—28 г.).

Трэба адзначыць, што галоўнае месца ў агульным звароце па рэалізацыі гатовага адзеньня да гэтага часу займае гарадзкая сетка ЦРК, што відаць з наступных дадзеных:

| Гады | Усяго ў тыс. руб. | % | У тым ліку ЦРК | % | Райсаюз | % |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1926—27 г. . . . . . . . | 1113,1 | 100 | 1038,6 | 93,3 | 74,5 | 6,7 |
| 1927—28 г. . . . . . . . | 4602,5 | 100 | 4094,4 | 89,0 | 508,5 | 11,0 |
| 1928—29 г. (1 кварт.) . . . | 2750,5 | 100 | 2289,5 | 83,2 | 461,0 | 16,8 |

Да 1927—28 г. вырабы швейнай прамысловасьці ўваходзілі ў намэнклятуру тавараў нязначнай часткі ЦРК,—рэалізацыяй гатовага адзеньня займаліся выключна буйныя ЦРК. Толькі пры пераходзе на плянавае забясьпечаньне систэмы зьявілася магчымасьць паступова ўцягнуць у працу з вырабамі швейнай прамысловасьці раней дробныя ЦРК, а пасьля і сельскую сетку спажывецкіх таварystваў.

Ня гледзячы на тое, што ўдзельная вага сельскай сеткі ў агульным звароце сыстэмы па рэалізацыі гатовага адзеньня з 6,7 проц. павялічылася да 16,8 проц., усё-ж гэтыя вынікі трэба лічыць недастатковымі.

Цяпер прасочым, якое месца ў зваротах Белкаапсаюзу па рэалізацыі гатовага адзеньня займае мясцовая прамысловасьць:

| Г А Д Ы | Усяго рэалізавана БКС гатовага адзеньня ў тыс. руб. | У тым ліку тавараў мясцовае прамысловасьці ў тыс. руб. | % да агульнага звароту па гатоваму адзеньню |
|---|---|---|---|
| 1926—27 г. . . . . . . . | 652 | 20 | 3,0 |
| 1928—29 г. (1 паўгодзьдзе) | 4060 | 3140 | 77,3 |

Адсюль мы можам зрабіць пэўныя вынікі, што мясцовая прамысловасьць кожны год у зваротах Белкаапсаюзу займае ўсё большае і большае месца, даводзячы сваю ўдзельную вагу за апошнія паўтара гады з 3 проц. да 77,7 проц.

Усё-ж нельга абмінуць тых недахопаў, якія адмоўна адбіваюцца на працы спажыўкаапэрацыі з гатовым адзеньнем.

Трэба адзначыць, што спажывец да апошняга часу не пакідае скардзіцца на якасьць працы гатовага адзеньня. У некаторых выпадках ад гэтых нараканьняў на недахопы лёгка пазбавіцца (недагладжваньне, плямы, неабрэзаныя ніткі, неадпаведныя гузікі і г. д.).

У асартымэнце адсутнічае дастатковая колькасьць гатовых вырабаў з матар'ялу сьветлых колераў, а таксама абмяжованы выбар вялікіх памераў. Маюцца выпадкі здачы тавару пасьля сэзону, калі попыт на яго скончыўся.

Трэба адзначыць яшчэ дрэнную ўпакоўку, чаму псуецца тавар. Кажучы пра недахопы ў сыстэме спажыўкаапэрацыі, мы павінны заўважыць наступнае:

а) сыстэма спажыўкаапэрацыі, асабліва сельская сетка, яшчэ ня мае дастатковага апарату для больш шырокага разьвіцьця працы з вырабамі швейнай прамысловасьці;

б) у большасьці арганізацый і нават некаторых ЦРК адсутнічаюць адпаведныя памяшканьні для гандлю гатовым адзеньнем;

в) недастатковасьць сродкаў у асобных арганізацыях не дае магчымасьці мець нармальны запас і неабходны асартымэнт;

г) спажывецкай сыстэмай мала вывучаны попыт насельніцтва на гатовае адзеньне.

Мы лічым, што пытаньням арганізацыі збыту гатовага адзеньня як з боку прамысловасьці, так і спажыўкаапэрацыі павінна удзяляцца максымум увагі.

Ф—аў

# Як прайшла справаздачная кампанія ЦРК

Сваю справаздачную кампанію Менскі ЦРК пачаў 15 сакавіка і скончыў 31 мая. За гэты тэрмін праведзены 154 справаздачныя сходы, на якіх прысутнічала звыш 20 тысяч пайшчыкаў. Наведваньне сходаў было 65,3 проц. супроць 59 проц. у 1927-28 годзе.

Справаздачная кампанія прайшла пад лёзунгам усебаковай крытыкі дасягненьняў і недахопаў у працы каапэратыву. 1154 чалавекі, якія выступалі ў спрэчках, „па костачках" разабралі працу каапэратыву. Па дакладах зададзена 3515 запытаньняў. Агонь крытыкі больш усяго быў накіраван па сапраўды слабых бакох працы ЦРК: засьмечанасьць гандлёвага апарату, выпадкі растрат, кумаўство і пратэкцыянізм з боку некаторай часткі працаўнікоў прылаўку. Шмат гаварылі аб чарзе ў крамах, аб несваечасовай дастаўцы хлеба ў крамы, аб нядобраякаснасьці гатовага адзеньня, не здавальняючым санітарным становішчы ў крамах, аб недастатковым разгортваньні культурна-бытавой працы.

Аднак-жа гаварылі ня толькі аб недахопах. Павялічэньне колькасьці сяброў прафсаюзаў, палепшаньне працы сэкцыі ўпаўнаважаных, разгортваньне працы бюро скаргаў, значны рост гандлёвай сеткі, пашырэньне асартымэнту, галоўным чынам, за кошт харчовай групы, павялічэньне звароту—вось тыя дадатныя моманты ў працы каапэратыву, на якіх спыняліся пайшчыкі.

Шмат каму дасталася з каапэрацыйнага актыву. Пайшчыкі да справаздач актыву падыходзілі з асаблівай сур'ёзнасьцю. Шмат сябраў крамачных камісій працавалі зусім дрэнна ў прымацованых крамах, асабліва па частцы ажыцьцяўленьня кантролю за правільным разьмеркаваньнем дэфіцытных тавараў. Упаўнаважаныя неакуратна наведвалі свае сходы і сэкцыі, дрэнна яшчэ каапэрацыйны актыў праводзіць растлумачальную працу па прадпрыемствах. Пайшчыкі прымушаны самі насіць да здачу паявыя ўзносы, падштурхваць каапэрацыйны актыў сваечасова атрымліваць талёны на дэфіцытны тавар. Праца шмат якіх каапэрацыйных камісій прызнана нездавальняючай. Таму пайшчыкі асабліва ўважліва падыходзілі да выбараў, кожная кандыдатура абмяркоўвалася, як сьлед, узважвалася.

Усяго абрана ўпаўнаважаных 246 чалавек, з іх нанова абраных 57,3%. У склад упаўнаважаных абрана: рабочых—124 чалавекі, або 50,4 проц., сяброў партыі 126, што складае 51,2 проц., камсамольцаў 24,ці 9,7%, жанчын—45,ці 21,2 проц. У параўнаньні з папярэднім годам у складзе ўпаўнаважаных павялічылася колькасьць рабочых, жанчын, партыйцаў. З агульнай колькасьці абраных упаўнаважаных—34 ад вайсковых частак (20 чалав. начскладу і 14—чырвонаармейцаў).

Каапэрац. камісій абрана 106 (з іх 14 ад вайск. частак) з агульнаю колькасьцю сябраў звыш 700 чалавек (вайсковых—74 чал.) Такім чынам, каап. актыў разам з каап. арганізатарамі ўзрос да 1000 чалавек, супроць 800 у мінулым годзе.

Асноўныя недахопы ў справаздачна-перавыбарчай кампаніі наступныя: супаданьне справаздачнай кампаніі з шэрагам другіх кампаній (выбары ў гарсавет, кампанія перавыбараў ФЗМ, кампанія па растлумачаньні чысткі апарату, перавыбары шэфтаварыстваў і ячэек Асаавіяхіму). Перагрузка сходаў па калектывах у некаторай частцы мела ўплыў на зьніжэньне наведваньня справаздачных сходаў. У іншых месцах сходы за няпоўнаю яўкай пайшчыкаў рабіліся паўторныя, а тры сходы зусім не адбыліся. Кампанія ў друку зусім не асьвятлялася.

Павялічаны процант наведваньня, непараўнаўча ўзросшая актыўнасьць пайшчыкаў—вось асноўныя дадатныя

моманты ў справаздачнай кампаніі. Трэба адзначыць, што партыйныя ячэйкі і прафсаюзы ў гэтым годзе аддалі больш увагі справаздачнай кампаніі, чым у мінулыя гады, як у правядзеньні сходаў, так і ў падборы кандыдатур.

22 чэрвеня адбыўся першы сход упаўнаважаных новага складу. Сход заслухаў даклад праўленьня і абраў новы склад праўленьня. У асноўным на справаздачным сходзе ўпаўнаважаныя згрупавалі ўвагу на тых недахопах, аб якіх казалі пайшчыкі на справаздачных сходах. Склад праўленьня абраны з 9-ці сяброў і 4-х кандыдатаў, у тым ліку 10 рабочых, сяброў партыі і камсамолу—9, беларусаў—5, яўрэяў—6, іншыя—другіх нацыянальнасьцяй. У склад праўленьня і рэўкамісіі абрана па аднаму сябру ад вайсковых. Нельга не адзначыць дрэннае наведваньне сходаў упаўнаважаных: у першы дзень на сходзе прысутнічала 61 проц. упаўнаважаных, у другі—51 проц., што часткова тлумачыцца адпускным пэрыодам, адсутнічаньнем вайсковых (у лягерах) і ад'ездам студэнцтва на вакацыі.

У працягу тыдня Менскі ЦРК ужо разгарнуў працу з новым складам каапэрацыйнага актыву. Арганізаваны 3 сэкцыі: арганізацыйная, гандлёва-грашовая і вытворчая. Па сэкцыях абраны бюро, зацьверджаны пляны працы і г. д. Апрача таго, з новага складу ўпаўнаважаных вылучаны 2 сталых камісіі: бюро скаргаў і камісія па разьмяркоўваньню дэфіцытных тавараў.

Такім чынам, ня гледзячы на летні пэрыод, праца з каапэрацыйным актывам разгарнулася, і трэба спадзявацца, што новы склад каапэрацыйнага актыву возьмецца за працу з падвойнай энэргіяй і дасьць дадатныя вынікі ў сваёй працы.

---

**Ф—ай**

# Пра гандаль ЦРК у лягерах

Падрыхтоўчую працу па абслугоўваньні лягераў Менскі ЦРК правёў сумесна з каапэрацыйным актывам вайсковых частак. Плян абслугоўваньня па частцы тапарнага забясьпечаньня і арганізацыя таварнай сеткі былі прапрацаваны на нарадзе прадстаўнікоў вайскова-гаспадарчага забясьпечаньня, гарнізоннай ВКК і пленуме ўпаўнаважаных і каап. камісій частак гарнізону.

У бягучым годзе, у параўнаньні з папярэднімі гадамі, гандлёвая сетка ў лягерах значна пашырана. У абодвух лягерах працуюць дзьве крамы, шэсьць ларкоў, дзьве сталовыя з буфэтамі і шэсьць чырвонаармейскіх чайных. Чайныя арганізаваны ў лягерах упяршыню, і кароткая практыка кажа за іх жыцьцёвасьць і неабходнасьць у лягерных умовах.

Сёлета з боку Ваенведу зроблена Цэрабкопу большае садзейнічаньне: адрамантаваны памяшканьні, сталовыя забясьпечваюцца дровамі, даюцца перавозачныя сродкі і г. д. ЦРК на рамонт памяшканьняў пад крамы патраціў 300 рублёў.

Асартымэнт тавараў у лягерных крамах у асноўным прыстасованы для задавальненьня патрэб чырвонаармейцаў, начскладу і іх сем'яў.

Маюцца ў продажы: сала, масла, каўбаса, крупы, хлеб, тутун, галянтарэя, спортмаёмасьць, фруктовыя воды і г. д.

Каштоўнасьць абеду 45 кап., шклянка чаю ў чырвонаармейскіх чайных—2 кап.

Па водзывах тых, хто сталуецца ў сталоўцы, абеды па якасьці „сносныя“. Некаторыя лічаць „ня лішнім павялічыць колькасьць жыроў“, ва ўсякім выпадку за абедамі ў лягерных сталовых гарадзкім сталоўкам ня ўгнацца. Цэны на ўсе тавары ня

вышэй ад цэн, існуючых у горадзе. Агульная выручка за месяц па лягерам выяўляецца ў 35.000 руб.

У 2 лягерах з'арганізованы лягерныя каапэрацыйныя камісіі, якія праяўляюць бурную дзейнасьць. За невялікі тэрмін зроблена па некалькі пленумаў каапактыву, заслуханы даклады заг. гандлюючымі адзінкамі і сталовымі, лягерныя камісіі прыстасавалі гадзіны гандлю да лягернага распарадку.

Па дадзеных каап. актыву, каапэрацыйная праца ў лягерах ідзе ня горш, чымся на зімніх стаянках.

Але ўсё-ж, ня гледзячы на ўсе, як быццам прынятыя меры, абслугоўваньне ў лягерах не абыходзіцца без недахопаў. Бываюць выпадкі перабояў у забясьпечаньні таварамі часткова па аб'ектыўных умовах, а часткова па віне саміх вайсковых частак, якія неакуратна даюць падводы. Чырвонаармейскія чайныя яшчэ не набылі права называцца культурнымі, і пакуль каапэрацыйна - асьветная праца ў іх ня выходзіць за межы раскіданых па сталох каапэрацыйных газэт і часопісаў. Масавая праца яшчэ не разгорнута. У сталоўках мала рознастайнасьці ў патравах, у ларкох адчуваецца недахват вазэліну, сетак, маек і дзе-ні-дзе канвэртаў.

У агульным на абслугоўваемы штат скаргаў няма, за выключэньнем асобных выпадкаў. Штат працуе ў лягерах амаль адзін і той-жа кожны год і за доўгі тэрмін досыць „ваенізаваўся“ і прыстасаваўся да працы ў лягерных умовах.

Крамы адчыняюцца з наступленьнем працоўнага дню і фактычна зачыняюцца з наступленьнем вячэрняй цішыні. Крамы і сталовыя абслугоўваюцца штатам у колькасьці 44 чалавек.

Усё-ж, ня гледзячы на некаторыя недахопы, абслугоўваньне лягераў у бягучым годзе пастаўлена лепш, чым у мінулыя гады, хоць скаргаў, заслугоўваючых увагі, і ў мінулыя гады ня было.

**У нас ёсьць цудоўны сродак адным ударам падзесяцярыць наш дзяржаўны апарат... Гэта цудоўная справа—прыцягненьне працоўных, прыцягненьне беднаты да штодзённае працы кіраваньня дзяржаваю**

**(Ленін).**

**Пайшчык! хочаш танных цэн на тавары—правярай працу свайго каапэратыву, дапамагай яму ў працы сваімі парадамі**

# НА МЯСЦОХ

Рэзкі

## У гнёздах сямейсьцьвенасьці

Паказальнікам таго, што сямейсьцьвенасьць зьвіла сабе гняздо ў нізавых зьвеньнях сампрамкаапэрацыі (арцелі, крэдытна-прамысловыя т-вы) зьяўляюцца тыя довады, што за час перавыбарчае кампаніі (сакавік-май г.г.) выяўлена па аднэй толькі Менскай акрузе да дваццаці выпадкаў злоўжываньняў, пры чым такіх, аб якіх добра ведала і адчувала на сабе асноўная маса саматужнікаў; як аб'яднаных у арцелі, так і ў крэдытна-прамысловыя т-вы.

Напрыклад, вельмі несправядлівае і, зразумела, няклясавае разьмеркаваньне крэдытаў і дэфіцытных тавараў зроблена ў Шацкім крэдытна-прамысловым т-ве, дзе некаторыя саматужнікі-адзінкі атрымлівалі па 15 клгр. падэшвы і палувалу ў той час, калі аб'яднаныя ў арцелі атрымлівалі па 3—4 клгр. Сярод саматужнікаў, якія атрымлівалі па 15 клгр. першае месца займаў стрыечны брат сябра праўленьня і галоўнага верхавода т-ва. У гэтым т-ве мануфактура разьмяркоўвалася паміж і няпайшчыкамі, пры гэтым для „вельмі істотных патрэб" пасаг дачцы, сыночку на штонікі і г. д. Такім чынам, гэтаму „галоўверхаводу" т-ва Бэрнштэйну, на жаль, да апошняга часу меўшаму ў кішэні камсамольскі білет, ўдавалася ўсіх задобрываць, у чым дапамагаў яму блёк сваіх крэўных, якія знаходзіліся і ў кравецкай і белашвейнай арцелях; дзякуючы гэтаму ён мог напрацягу доўгага часу ашукваць гандлёвы аддзел БКПС, атрымліваючы на „мёртвых" шаўцоў і краўцоў дэфіцытныя тавары.

Замест 40 шаўцоў, якія лічыліся на забясьпечаньні ў т-ве, пры вельмі старанных вышуках знайшлося ўсяго 4 ці 5, а з краўцоў, якіх лічылася да 15-ці, знойдзен толькі адзін—і той паўгандляр

Палітыка задобрываньня і стварэньня кругавой парукі дайшла да таго, што пад відам пазыкі на вытворчыя патрэбы атрымаў 150 рублёў рэлігійны паслугач, на куплю дроў для Шацкай сынагогі... Гэты пачынаючы афэрыст Бэрнштэйн, калі яго на ўласным бягучым рахунку стала больш 400 руб. грошай, ня спыняецца перад тым, каб адпушчаныя для арцелі падэшву і палувал разьмеркаваць паміж адзінкамі саматужнікамі з тым, каб яны толькі падтрымлівалі яго кандыдатуру на выбарчым сходзе таварыства.

Але ўся гэтая яго падрыхтоўка лопнула, як мыльны пузыр. Група беднаты на зачыненым сходзе выкрыла ўсе яго штукі і пастанавіла перадаць усю гэтую справу сьледчым органам для прыцягненьня да адказнасьці ўсяго праўленьня т-ва.

Тут трэба запытацца, а дзе-ж была савецкая грамадзкасьць, дзе-ж была парт'ячэйка і дзе-ж, урэшце, быў старшыня савету т-ва, член праўленьня с.-г. т-ва—камуністы, які ня мог ня ведаць аб тых злачынствах, якія ўтвараліся ў гэтым бяздольным т-ве? Вельмі цяжка сказаць, ці зьяўляецца гэта замоўчваньне незразумеласьцю задач, якія стаяць перад каапэрацыяй па ахове інтарэсаў беднаты, ці гэта можа спрытнасьць „спэца" Бэрнштэйна, які мог сваёй тонкай палітыкай і шырокай натурай зрабіць усіх сваімі, у тым ліку і старшыню савету.

Гэты прыклад тонкага ашуканства, а вось—больш грубога.

У Пагосьце, Бярэзінскага раёну, мясцовыя краўцы ў сувязі з адсутнічаньнем дастатковага забясьпечаньня мануфактурай парашылі перайсьці на працу па смалакурэньню. Што-ж?— БКПС вітае такія пераходы. І вось гэтыя краўцы ўвайшлі ў арцель, якая мела два катлы ў вёсцы Манчэсках.

Гэтыя катлы былі забраны ад Багушэвіцкай смалакурнай арцелі, і, у зьвязку з пераходам туды краўцоў, былі дадзены вельмі ільготныя ўмовы эксплёатацыі гэтых катлоў.

У статчастку БКПС прадстаўляюцца зьвесткі вельмі добрыя: катлы даюць па 18—20 пудоў шпігінару з кожнае выганкі. Балянсы паказваюць прыбытак, і на ўсіх гэтых зьвестак маюцца подпісы праўленьня, рэўкамісіі і рахункавода.

Але... Калі прышлося зьняверыцца ў рэальнасьці ўсіх гэтых зьвестках, дык выявілася шмат ашуканства. Катлы давалі выганкі па 12—13 пудоў. Замест лічыўшыхся па рахунку „Гатовыя вырабы"—2.000 рублёў, маецца ўсяго толькі 1.300 рублёў. Між іншым за некаторы час да падрабязговага абгляду ўсяго актыву арцелі на месцы, сябры арцелі запэўнівалі, што ў іх дэфіцыту ніякага няма, і толькі тады, калі быў устаноўлены дэфіцыт каля 700 рублёў, некаторыя з іх пачалі прызнавацца, што яны як быццамі самі адчувалі гэты дэфіцыт, але ня лоўка было аб гэтым паведамляць, бо гэта адчуваецца на крэдытах, лімітах і г. д..

Між іншым, аб гэтым павінна было ведаць Бярэзінскае крэдытна-прамысловае т-ва, якое спэцыяльна выяжджала абглядваць гэтую арцель і адпусьціла крэдыту больш 2000 руб. Таксама аб гэтым павінна была ведаць і рэвізійная камісія арцелі, у якую ўваходзяць прадстаўнікі мясцовых арганізацыі. Адказ адзіны—сямейсьцьвенасьць. Нялоўка неяк сваіх краўцоў дэталёва правяраць, а раптам знойдзецца злоўжываньне—перадавай тады ў суд, а пасьля ўжо лепш і на вуліцу не паказвайся... А ў выніку... цэласьць крэдытаў становіцца пад сумненьне.

Наогул трэба з ўсёю сур'ёзнасьцю паставіць пытаньне аб больш часьцейшай інвэнтарызацыі балянсаў нашых арцеляў у прысутнасьці прадстаўніка саюзу, асабліва ў адносінах да смалакурных арцеляў, сыравіна і гатовыя вырабы якіх бываюць раскіданы на вялікай адлегласьці.

Вось яшчэ факт „кустарнага" падыходу да справы зьнішчэньня нядахопаў. У Пухавіцкай арцелі краўцоў выяўлена растрата ў 244 рублі. Гэта растрата зразу ня была дастаткова высьветлена, але праз некалькі дзён, пасьля дэтальнае праверкі ў касавай кнізе, выявілася, што гэтую растрату зрабіў касір. Застаецца з яго і взыскаць гэтыя грошы. Не, вы памыліцеся, калі так падумаеце. Пухавіцкія арцельшчыкі парашылі пасвойму, па „кустарнаму". Ведаеце, Гіршык (касір) хлопец добры наш саматужнік, а таму ня будзем яго перадаваць суду, а лепш памаўчым: нас 24 асобы па 10 рублёў у год, і праз год растрата будзе пакрыта.

Такія „кустарныя" думкі маюць месца ў нетрах саматужных мас таму, што гістарычнае разьвіцьцё саматужніцтва, асабліва ў мястэчках, рабіла з іх адзіную сям'ю. У саматужных масах існуе лёзунг: „мы ўсе саматужнікі", а яшчэ ў некаторых месцах і шовініцкі лёзунг. „мы ўсё яўрэі".

На жаль супроць гэтых думак да гэтага часу ніякіх канкрэтных мерапрыемстваў ня прымалася. Культмасавая праца вельмі кульгае, асабліва інтэрнацыянальнае выхаваньне. Няма форм і мэтадаў працы, дзе саматужнік, які ўжо увайшоў у арцель, адчуваў-бы сябе як гаспадар. Да гэтага часу яшчэ шмат саматужнікаў у арцелях лічаць, што, калі зроблена растрата, калі маецца злоўжываньне, гэта справа ўлады, ён павінен быць ад гэтага з боку. Мая думка, што разам з непасрэднымі злачынцамі павінны прыцягвацца да адказнасьці, а ўрэшце, выключацца з арцелі тыя асобы, якія пакрываюць гэтыя злачынствы.

Сацыялістычнае спаборніцтва, якое праходзіць у сучасны момант па ўсёй нашай прамысловасьці, павінна закрануць і саматужна-прамысловую каапэрацыю; пры гэтым адным з лёзунгаў правядзеньня гэтага спаборніцтва павінна быць сталая і рашучая барацьба з сямейсьцьвенасьцю і ашуканствам.

Выяўляць адпаведныя зьвесткі аб становішчы кожнае арцелі шляхам агульнай здаровай самакрытыкі, якая павінна выходзіць з самых нетраў саматужных мас.

Макар Валацуга

# Па каапэрацыйных ухабах

*(Дарожныя нататкі Макара Валацугі)*

...Дык от я і прышоў аж на Самахвалаўшчыну.

— Дзіндобры!—кажу.—Як маецеся? Ці жывы, ці здаровы хаця? Што чуваць?

— Нічога такоўскага, кажуць,—ня чуваць. Усё, можна сказаць, старыя кавалкі, калі ня лічыць картофлі.

— Якой-жа гэта?—бярэ мяне цікавасьць.

— Ну, што ў шчэпку высахла ў Крупіцкім спажывецкім таварыстве. Закупіць-то яно закупіла, а дзе дзець, якую раду даць ёй, ня ведае. Так і высыхае яна, гніе часам, лежачы ў аднаго селяніна.

«Ба-ачыш... крыху падзівіўся я ды пачаў разважаць пра Дзешчанскае спажывецкае таварыства:

«І чаму гэта Дзешчанскі крамар Нямчонак, разважаю я, у той дзень, як раз быў п'яны, іменна ў той дзень, як прывезьлі здаваць жыта, да яшчэ і да чорта пасылаў усіх, хто прывёз хлеб. (Ведама, як п'яны чалавек). Добра, што старшыня праўленьня зьлітаваўся ды прыняў жыта. Гэта нічога ня значыць, што а дванаццатай гадзіне ночы... Самае галоўнае абы прыняў».

«Дзіўна, чаму людзі упіваюцца як раз у такія дні. Нібы-та ім, гэтым людзям, дзён-бы не хапіла другіх?»

— Ну дык бывайце здаровы, пакуль што,—кажу я ды зьбіраюся ісьці.

— Пагулялі б, кажуць мне,—аднак рэдка бываеце ў нас...

— Не, кажу я.—От ужо другім разам як-небудзь даведаюся. А то, ведаеце, мяне чакаюць. Часу. . да зарэзу ня маю часу.

І мне ўяўляецца... Вы ніколі не здагадаецеся, што мне ўяўляецца Новадворскае спажыўтаварыства, тут-жа на Самахвалаўшчыне. Я, здаецца, бачу сваімі вачыма, як Трасьцянецкае аддзяленьне загатовіла 180 пудоў хлеба. Загатовіла ды ссыпала, каб ён улежваўся. Дык ён улежваўся, улежваўся, а пасьля з яго як пойдзе дым... А старшыня Малашка тады яго, гэта жыта, на вазы ды ў Менск.

— Прадаіцё?—пытаюць у Менску, мацаючы цёплыя мяшкі.

— Канечна, адказвае старшыня.

— Чаму-ж яно цёплае такое?—пытаюць зноў.

— На сонцы,... ведама цёплае надвор'е,—тлумачыць Малашка,—нагрэлася за дзень.

— Каму-у жыта, жыта каму?—гукалі з вазоў.

Так і не прадаў. Прывёз назад. Цяпер яно перайшло, пасьля гарачыні, у халодны стан. А ў краме № 1 жытнія карані праз мяшкі павыстаўлялі свае вусы: хочуць ухапіцца як-небудзь за чорную зямлю, хочуць расьці і расьці. А мука?—бедная тухла-пахучая мука! Каму-ж яна патрэбна такая? Што-ж з яе пудру будзешь рабіць ці што?

І мне „вабчэ“ даецца ў знакі Новадворскае спажыўтаварыства сваёю гарачынёю. Мне здаецца, яно не ў Беларусі, а нейдзе ў гарачай паўднёвай краіне, таму ўсё і награваецца так, і пахне так, і буцьвее так. Нават каўбасы і мяса, разам каля двух пудоў, ня вытрымалі гарачыні—пратухлі. Але-ж ушчэнт. Прышлося закапаць у сасоньніку. А такі-то „продухт“. Дык от ужо была выгада новадворскім сабакам. Ай-яй-яй. Адкопваюць сабе лапамі ды ядуць.

Дык пасьля ўсяго гэтага няма ніякага дзіва, што Малашка аднойчы сазнаўся, што некаму некалі нейдзе прыдзецца „пасядзець“...

— Ну, усё-ж бывайце здаровы, кажу я,—трэба такі ісьці. Яно трэба было-б зайсьці да Вузьлянскага спажыўтаварыства—там нешта наконт перавыбараў у іх ня зусім. Адносна Бронштэйна — праведаць. Ён, Бронштэйн, часам ні з сяго, ні з таго любіць сказаць ні сёе, ні тое. Ну, як-бы:

— Куды ідзе памольны збор,—пытае пайнік.
— Ня ваш гэта інтэрас,—адказвае Бронштэйн,—аб гэтым дазвольце нам ведаць.
— Альбо:
— Настаўнік ня мае права,—кажа Бронштэйн,—атрымліваць хлеб з каапэратыву, бо ён не падыходзіць пад рубрыку асоб, што атрымліваюць хлеб адтуль. Настаўнік атрымлівае 50 рублёў у месяц і таму можа дзе хаця купіць хлеба. Уга! Дзіва, што купіць, што гэта сьвет малы?!

Дык трэба было-б заглянуць, але... *дзе наша* не прападала. І я іду. Лепей пайду да Ратамскага таварыства на Заслаўшчыну.

Цяпер, калі я іду, мне ўспамінаецца Мотэль-карабейнік. Капыльскае таварыства дае яму тавары, а ён носіць іх і прадае па раёну. І от я думаю, ці ня дзеліцца Мотэль таварамі, ці ня пакідае частку тавараў у сваей жонкі?

— Мала за якую цану можа прадаваць Мотэлева жонка, або яго сын. Адкуль гэта хто ведае, чый тавар. Што гэта ён закляймованы ці што? Але мне гэта толькі думаецца. Мала што чалавек можа думаць, мала што прыдзе на памяць. От мне ў вушшу і дагэтуль яшчэ стаіць крык старшыні праўленьня Кананчука і Шэхтмана (вёска Мухаеды—Мазыршчына): яны крычалі на перавыбарах праўленьня:— „Ціха! Даволі нас браць за бакі. А то пад суд аддадзім. Раз табе катораму кажуць замаўчы, дык і замаўчы“!

Адным словам, мала што ўспомніцца, узьвярзецца.

— І я іду. Ужо блізка падыходжу да Ратамскага таварыства. Іду гэтак, а яно ўжо здалёк відаць. Насьвістваю ідучы, на сэрцы нешта скрабе. Здаецца, радаснае. Жыта хвалюецца, як мора, сіняе, сіняе такое. А от і пшаніца-зімка. Ой, вельмі-ж хвацкая пшаніца! Можа і на Бабруйшчыне такая. Oто-ж калі такая, дык колькі будзе мукі! Тады Радаценскае спажывецкае таварыства ня па 8-16 кілё будзе даваць на мацу к яўрэйскаму вялікадню, а па... (цяпер трудна сказаць пакольні).

«Нічога ня зробішь, разважаю я словамі часовага старшыні праўленьня. Нічога ня зробіш-на тое-ж празьнічак. Трэба даць, дапамагчы. Па—сачуўстваваць.

І я іду, і сустракаюся з крамарам Дварэцкага спажыўтаварыства з Чашніцкага раёну.

— Дзіндобры, Атрашкін Янка, — зьвяртаюся я,--куды ты гэтак імчышся? і гляджу я на яго потны твар.

— А ай,—кажа ён махаючы рукой,— маўчы, брацішка, маўчы лепей.

— Што?—пытаюся я спалохана, што з табою?

— Абакралі — кажа — гэта-ж сустрэўся, кажа, з старшынёю Паўлам... Дык от мы як заселі... Дык я, браце, ня памятую, як вылез з-за стала, як на воз узьлез. Памятую адно толькі: прачнуўся, гляджу, прыглядаюся і не пазнаю.

— Каго?—пытаюся я.

— Сам сябе—кажа ён.—Не пазнаю, дзе я, што я. А конь мой стаіць на чужым дварэ, а я ўвесь... Раскатурхаўшыся мацнуў я сюды, туды-няма. Я і на возе, я і пад возам—няма. Я кінуўся бегчы—няма. 600 рублёў няма, лявървара няма, дакумэнтаў няма. Усю чатырохдзённую выручку, такіх-то шэсьцьсот рублёў! Брацішка, ой!

І ён пачаў галасіць.

— Ня плач,--кажу я.--Я табе спачуваю. Дзіва, што спачуваю! Але-ж нічога не дапамагу. Ня трэба было-б піць такой моцнай, раджу я...

— От, бок, людзі жывуць яшчэ на белым сьвеце--думаецца мне, калі я разьвітуюся.

І я іду далей, гледзячы на жыта і разважаючы:

— А наўрад ці выйграе Карсановіцкае таварыства на Барысаўшчыне ў пастанове аб сваім самастойным існаваньні. Куды лепей было-б далучыцца яму да Зембінскага спажывецкага таварыства. Нечага сабе, адзін чалавек быў-бы ў краме... Расходы меншыя былі-б. А так, брат ты мой, дай аднаму, дай другому, дай трэцяму дай...

Усё пэнсія, пэнсія і пэнсія, так што ці хопіць на гэтую пэнсію. Тут трэба было-б інакай меркаваць, а ня то што цапу-лапу: „Мы самі, мы самостойна, мы нікому не паданчальваемся“.

— Наўрад?.. Невядома?.. Трэба будзе зайсьці як-небудзь... Ці не падаражэла што?..

І от урэшце я прыходжу такі ў Ратамскае.

— Дзіндобры,—кажу да Фрэнкеля, да закупшчыка.—Як маецеся тут? Як ваш брат маецца? Як у вашага брата ў мясной краме? Што чуваць у яго?

— Няма чаго дзіндобрыцца, адказвае мне Фрэнкель.—Я ведаю, чаго вы (гэта ён на мяне) падлізваецеся. Мяне не абдурыш. Вам, кажа ён, рупіць мой запас ад арандаванага мною млына, ад уласнаго дому. Дык няхай-жа рупіць сабе. А мяне вы не правядзіцё. Вы супроць мяне—ноль. Мне, можна сказаць, Заслаўскі Шапшынвала і то ня роўня. Мяне голаю пядзяю вы ня будзеце мераць. От!

— Цішэй—тав. Фрэнкель,—кажу я. Я-ж нічога... Я-ж толькі хацеў прывітацца з вамі. А ён ня слухаючы мяне:

— Што я ня сумленны грамадзянін саюзу, га? Запытайцеся ў Галікевіча П., Наўроцкага А., Адукевіча і г. д. Запытайцеся на тую спробу. А тое, што лепшае цялячае мяса я прадаваў прыватнікам, а горшае—для каапэратыву, для дому адпачынку, дык гэта... Я можа з іх браў даражэй.

І я ня супярэчу ў тым, што Галікевіч П., быўшы ўладар маёнтку, будзе хваліць Фрэнкеля, а таксама і Наўроцкі і Адукевіч—закатныя таварышы, дык дзіва што пахваляць.

Па-другое, старшыня Сухадольскі вечна заняты „абавязкамі", клопатам, ня мае часу наглядаць за „пустякамі" Фрэнкеля. А таму, няма ніякага дзіва, што і нараканьні розныя там бываюць і растраты водзяцца.

— Што гэта пяршыня ў растратах-і-га! Ня прывыкаць да іх, да гэтых растрат. І так як Фрэнкель за „невашта" раззлаваўся на мяне,— дык я цяпер іду на Узьдзеншчыну. Даведаюся, што там робіцца.

---

**М. К—н**

## На новыя рэйкі

7-га ліпеня г. г. адбыўся сход упаўнаважаных Менселькрэдыту, на якім разглядалася пытаньне аб справаздачы праўленьня т-ва за 1927-28 г. і першае паўгод. 1928-29 апэрац. году, а таксама аб сацыялістычным спаборніцтве і выбарах кіруючых органаў.

Па першаму пытаньню праўленьня, т-ва зазначыла наступныя дасягненьні ў працы т-ва: насельніцтва каапэравана на 66,3 проц., з іх бедната на 67 проц., з 467 бядняцкіх гаспадарак каапэравана 319. Праўленьнем т-ва выключаны з ліку пайнікаў 80 асоб, як пазбаўленых выбарчых правоў, з іх 30 вясковых і 50 гарадзкіх. Ёсьць дасягненьні ў зборы паявога капіталу: на 1/X—28 г. паявы капітал складаў 13.600 р., а на 1/VII 1929 г.—20.098 руб., у сярэднім на пайніка на 1/X - 28 г. паявы капітал складаў 7 р. 74 к., а на 1/VII—29 г.— 13 р. 70 к.

Таксама ёсьць дасягненьні па забясьпечаньню таварамі. У мінулым годзе гэтыя апэрацыі складалі 22.000 р. за год, а за $^3/_4$ г. г. прададзена тавараў на 145.000 руб., збытавыя апэрацыі ў мінулым годзе далі 31.000 р., а за $^3/_4$ г. г. маецца 198.000 руб.

Агульны сход канстатаваў, што крэдыты разьмяркоўваліся ў большай сваёй частцы правільна і ў напрамку задавальненьня ў першую чаргу бядняцкіх і маламоцных гаспадарак вёскі і гораду. Палепшылася праца апарату, але-ж назіраюцца такія недахопы, як адсталасьць бухгальтэрыі. Поўнасьцю ўцягнены 4 сельска-гаспадарчыя арцелі у т-ва і поўнасьцю абслугоўваюцца крэдытам. Сход адзначыў плянавасьць і своечасовасьць падрыхтоўкі да вясеньняй пасеўн. кампаніі, а таксама задавальненьне бяднейшай часткі насельніцтва насеньнем на 100 проц., за выкл. канюшыны, і на 75 проц. серадняцкай часткі вёсак.

Выказанае палажэньне пацьвярджаюць таксама дадзеныя аб астачы пазык за насельніцтвам на 1/VI—27 г. за калгасамі 16,3 проц., за звольненымі ад сельгаспадатку—29,4 проц., за серадняками і гарадзкімі пайнікамі—53,4 проц., з іх за гарадзкімі 16,7 проц., а таксама за пазбаўленымі выбарчых правоў засталося пазык 0,9 проц. Апошняя лічба засталася з выдадзенага крэдыту ў мінулым годзе, у той час, калі частка гэтых гаспадарак лічылася серадняцкай.

На сходзе адзначаліся казённыя адносіны да справы забесьпячэньня магазынаў таварамі, за што загадчык магазынам № 2 т. Каратаеў зьняты з працы.

У спрэчках выказалася 10 таварышаў, якія адзначалі дасягненьні і недахопы ў працы т-ва:

1) адсутнасьць плянавасьці пасяджэньняў праўленьня;

2) няправільная пастанова аб даручэньнях старшыні асабіста, выдаваць пазыкі, не складзен актыў і не ўцягнуты ў працу пры т-ве;

3) адсутнасьць выхаваўча-культурнай працы;

4) няправільнае заключэньне дагавору на пастаўку гародніны цэрабкопу з буйнымі гароднікамі.

Сход прыняў пастанову з цэлым шэрагам пунктаў аб палепшаньні працы ў будучым.

Т-ва мела прыбытку ў мінулым годзе 2.069 р., а ў гэтым паўг. балянсавы прыбытак складае 9.200 руб.; калі ўлічыць выдаткі будучага году да 3.000 руб., дык за паўг. т-ва мела 6.000 руб прыбытку.

У зьвязку з павялічэньнем зваротаў т-ва скараціла выдаткі на 50 проц. У мінулым годзе выдаткі звароту складалі 10,5 проц., а ў гэтым годзе за 1-е паўг. выдаткі звароту складаюць 5,3 проц.

Сход заслухаў даклад аб сацыялістычным спаборніцтве і прыняў рэзалюцыю, згодна якое ўсе ўпаўнаважаныя павінны прымаць актыўны удзел у працы т-ва. Сход упаўнаважаных выклікаў Барысаўскі селькрэдыт на сацыялістычнае спаборніцтва па працы т-ва і абраў камісію з 5 таварышаў.

Сход ухваліў адлічэньне першага снапа на ўзмацненьне сацыялістычнага будаўніцтва і заклікаў на гэтую справу ўсіх пайнікаў і сялян абслугоўваемага раёну т-ва.

Сход абраў новае праўленьне, у якое ўвайшло камуністых 2, беднякоў 2 і сераднякоў 1; у рэўкамісію —камуністых 2, з іх 1 калгасьнік і 1 бядняк; у савет т-ва абрана: камуністых 3, беднякоў 3, служачых 1 і серадняков 1. У склад праўленьня і савету абрана 2 жанчыны.

Трэба зазначыць, что сход упаўнаважаных прайшоў актыўна і дзелавіта. Параўноўваючы сходы упаўнаважаных мінулых гадоў, а таксама разглядаючы склад упаўнаважаных, трэба адзначыць, што гэта адзін з складаў абраных упаўнаважаных, у якім маецца беднякоў 50 проц. і няма кулакоў, у той час, як у мінулым складзе ўпаўнаважаных было да 25 проц. упаўнаважаных кулакоў і асоб, пазбаўленых права выбарчага голасу.

Г. Ф.

## На ўрачыстым сьвяце

(*Малюнак сходу*)

Заля клюбу савецка-гандлёвых служачых перапоўнена. Усе месцы і праходы заняты. Шмат хто сядзіць на падваконьніках.

Больш 700 працаўнікоў прылаўку Менскага ЦРК прышлі на сход. Віцебскі ЦРК выклікаў МЦРК на сацыялістычнае спаборніцтва. У прысутных урачысты і вясёлы настрой.

Чуецца званок—заціхае шум. Уступнае слова робіць старшыня ЦП саюзу саўгандальслужачых тав. Мурзіч. Ён у невялікай, але яснай прамове растлумачвае мэту і задачы ўступленьня ў сацыялістычнае спаборніцтва.

Наша задача—культурней і таней абслугоўваць рабочага пайшчыка. Удзел у сацыялістычным спаборніцтве

дасьць вялікія вынікі па ўмацаваньню нашае каапэрацыйнае гаспадаркі.

Сацыялістычнае спаборніцтва павінна ахапіць усю каапэрацыйную грамадзкасьць, разварушыць шырокія пласты працаўнікоў прылаўку і апарату—чытае дагавор па пунктах прадстаўнік гандлёвай сэкцыі.

Дапамагчы праўленьню ў правядзеньні абанэмэнтнай сыстэмы водпуску тавараў спажыўцу.

Пункт доўга абмяркоўваецца, трактуецца па-рознаму, урэшце, прымаецца.

Далей справа ідзе хутчэй, хоць кожная прапанова ўзважваецца, атрымлівае дадаткі.

— Мы, супрацоўнікі, абавязваемся быць самымі ветлівымі і ўважлівымі да пайшчыкаў і будзем даводзіць да ведама праўленьня ўсе прапановы і заявы пайшчыкаў.

— Дабіцца зьмяншэньня раструскі па мучной, па бакалейнай і харчовай групе да 0,35 проц., па мясу—да 1,5 проц., рыбе—1 проц.

— Працаваць бяз усякіх прагулаў.

— Абвяшчаем самую рашучую барацьбу растратчыкам, бюракратам, прагульшчыкам--і гром аплёдысмэнтаў заглушае апошнія словы дакладчыка.

— Асьцярожна захоўваць тару.

— Актыўна ўдзельнічаць у эканомпрацы і вытворчых нарадах...

— Рацыяналізаваць працу складу...

— Выканаць кантрольныя цыфры па збору паю... Чуюцца прапановы.

Не забыліся і пра апарат:

— Ясна вызначыць шэраг абавязкаў кожнага працаўніка, устанавіць сыстэматычнае дзяжурства адказных працаўнікоў для прыёму пайшчыкаў, паскорыць рух папераў да выканаўцы ў працягу адных сутак. Ніякай грамадзкай працы ў рабочы час, складаньне балянсаў не пазьней 15 наступнага са справаздачным месяца.

Умова робіцца тэрмінам на адзін год. Больш 150 чал., якія выступалі, далі шмат дадаткаў.

Мора рук, аплёдысмэнты—і наказ гатовы.

Для паездкі ў Віцебск падпісаць умову абрана камісія ў складзе 5 чал. і брыгада для нагляданьня за выкананьнем умовы з 15 чал.

Адначасова сход выносіць пастанову выклікаць на сацыялістычнае спаборніцтва Магілеўскі ЦРК.

З вясёлымі тварамі разыходзяцца працаўнікі прылаўку, а ў кожнага адна думка – выканаць абяцанае, не паддацца віцябчанам.

---

А.Шафран

# Першы вопыт

У гэтым годзе райсаюзам упяршыню ўзята ўстаноўка на падрыхтоўку шырокіх колаў каапэраванага насельніцтва.

З гэтай мэтай былі праведзены 5-дзённыя курсы-зьезд каапэрацыйнага актыву ва ўсіх раёнах акругі.

Трэба сказаць, што курсы далі дадатныя вынікі і праведзены здавальняюча. Усяго прапушчана праз курсы 223 слухачы, з якіх 38 проц. жанчын. Праграма заняткаў мела чысты практычны ўхіл, што зацікавіла слухачоў курсаў.

Наведваньне курсаў было—100 проц. Сацыяльны склад слухачоў быў наступны: батракоў—3,3 проц., серадdespнякоў—13,0 проц., рабочых—19,0 проц., служачых—9,0 проц., і саматужнікаў 16,5 проц. У складзе слухачоў курсаў была моладзь узростам да 23 гадоў—37,0 проц., агульнага ліку слухачоў. Сяброў і кандыдатаў КПБ было 10,0 проц. і ЛКСМБ—23,5 проц. Каля 75,0 проц. слухачоў абраны ў склад кіруючых і рэвізійных органаў у каапэрацыю акругі.

Справаздачна выбарчая кампанія праведзена з поўным удзелам і дапамогай слухачоў курсаў.

Такім чынам быў пакладзен пачатак пашырэньня і паглыбленьня каапэрацыйнай пісьменнасьці ў гушчы каапэрацыйнага актыву, што неабходна практыкаваць і ў далейшы час.

Мазырская акруга.

# БІБЛІОГРАФІЯ

**В. Грыгор'ев. „Какие бывают колхозы и как они устраиваются"--выданьне „Книгосоюза", 1929 г., тыр. 25000,** *Цана 15 к. 72 стар.*

„Наша заданьне ў адносінах да дробных сялян зьмяшчаецца раней за ўсё ў тым, каб іх прыватную вытворчасьць і прыватную уласнасьць перавесьці ў таварыскую, але ня сілаю, а пры дапамозе прыкладаў і прапановаў грамадзкае дапамогі для гэтае мэты"...

Такі эпіграф ўзяты з твораў Ф. Энгельса да гэтае кніжкі.

І далей аўтар, прытрымліваючыся гэтага эпіграфу, даводзіць на шэрагу прыкладаў карысьць грамадзкае апрацоўкі зямлі.

І сапраўды, толькі такая гаспадарка, у якой будзе працаваць машына заместа сахі, зможа даць большы ўраджай і зрабіць лягчэйшую працу селяніна.

Часта яшчэ ў нашай вёсцы не разумеюць самога значэньня слова калгас. Кожны тлумачыць яго па-свойму. У гэтай кніжцы аўтар растлумачвае яго. Ён падзяляе калгасы на тры віды: 1) таварыства па грамадзк. апрац. зямлі, 2) арцель і 3) камуна, падрабязна растлумачваючы аб кожным відзе паасобку.

Прачытаўшы гэту кніжку, кожны даведаецца пра тое, якія правы і абавязкі мае кожны сябра калгасу, каму выгода ад буйнае калектыўнае гаспадаркі і каму ад буйнае індывідуальнае.

Часта сяляне ня ведаюць яшчэ, як аформіць тую ці іншую справу з арганізацыяй калгасу—тут і на гэта даецца поўнае тлумачэньне з прыкладам копіі, як пісаць заявы.

Напісана кніжка вельмі папулярна. Яе неабходна ўсім каапэратывам, якія гандлююць кнігамі, набыць для папулярызацыі калгаснага будаўніцтва ў вёсцы.

Таннасьць кніжкі робіць яе даступнай для кожнага.

**Ал. Яз-віч.**

---

**А. Некрасаў „О работе сельско-хозяйственной коопэрации с беднотой"— выданьне „Книгосоюз". 1929 год. стар. 60,** *Цана 30 кап., тираж 10000.*

Цэлы шэраг папулярных кніжак, выдадзеных за апошнія часы выдавецтвам „Книгосоюз" зварачаюць на сябе ўвагу. Вось перад намі адна з такіх кніжак, дзе падрабязна растлумачваецца аб тэй ролі сельска-гаспадарчай каапэрацыі, якую яна адыгрывае ў працы з беднатой.

Аўтар у кароткіх рысах спыняецца на асноўных мэтах і заданьнях с.-г. каапэрацыі як у сэнсе падняцьця вытворчасьці сельскае гаспадаркі, так і ў перабудове яе на калектыўных (арцельных) пачатках.

Маецца ў кніжцы восем разьдзелаў, дзе растлумачваецца аб значэньні сельска-гаспадарчай каапэрацыі ў арганізацыйнай справе бедняты і аказаньні ёй дапамогі. Прыводзяцца прыклады, як бедната павінна змагацца з заможнікамі.

Праўда, мы ведаем, што яшчэ ня ўсюды наладжана, як сьлед, справа з крэдытаваньнем сельскай бедняты каапэрацыяй, але там, дзе гэта справа стаіць на належнай вышыні, бедната мае вялікую дапамогу, якто: машынамі, грашыма і г. д.

Добра наладжаная праца ў таварыстве робіць вялікую справу і ў сэнсе агрыкультурнай асьветы сярод бедняты.

Чытаецца кніжка вельмі лёгка, напісана зразумелаю і простаю моваю.

Усякі, хто цікавіцца працай каапэрацыі, хто хоча сам прыняць той ці іншы ўдзел у яе працы, павінен мець гэту кніжку. Каапэратывам трэба раіць для набыцьця яе ў каапэрацыйныя куткі. Цана кніжкі 30 к. ўсё-ж залішняя, калі прыняць пад увагу памер кніжкі.

**Я. Лебяда.**

---

**„Смычка"—двухтыднёвы каапэрацыйны часопіс, № 11—12. Чэрвень 1929 год, выданьне Цэнтрасаюзаў СССР і РСФСР.**

Перадавым артыкулам у часопісе зьяўляецца артыкул, прысьвячоны Міжнароднаму дню каапэрацыі. Усьлед за ім ідзе артыкул „Шесть лет конституции СССР". У абудвых з іх растлумачваецца аб тых задачах, якія зараз стаяць перад каапэрацыяй і кожным грамадзянінам і аб тых дасягненьнях, з якімі Савецкі Саюз сустракае кожнае з гэтых сьвят.

Ёсьць артыкулы аб заданьнях каапэрацыі ў пяцігодцы народнае гаспадаркі, аб сацыялістычным спаборніцтве ў каапэрацыі, аб барацьбе з бюракратызмам і шмат другіх.

Дзякуючы таму, што нумар вышаў падвойным, тут розным пытаньням удзелена шмат увагі.

У часопісе вы можаце спаткаць і старонку чырвонаармейца, і старонку жанчыны, і старонку моладзі, і артыкул на самыя рознастайныя каапэрацыйныя тэмы як унутранага, так і міжнароднага характару.

У аддзеле „Быт" дадзена досыць цікавае апавяданьне „Смерть китаянки". Ёсьць вершы на тыя ці іншыя тэмы будаўніцтва.

Рэдакцыя трымае самую цесную сувязь с месцамі і чытачамі—таму мае поўнае права называцца масавым часопісам. Аб тым, што часопіс не адарваны ад мас, сьведчыць з месц цэлы шэраг допісаў зьмешчаных у нумары і „страничка читателя", дзе чытачы адзначаюць дасягненьні і недахопы часопісу.

Нумар багата ілюстраваны (на 64 старонках зьмешчана звыш 50 рознастайных малюнкаў), што вабіць чытача. Матар'ял да нумару падабраны досыць удала. Цана нумару 30 кап. робіць яго даступным. Адно трохі дзіўна, чаму на вокладцы няма нідзе падпіснoе платы.

**Антось Каралёў.**

---

*Рэдактар—РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ*

*Выдавец—Каапцэнтры БССР, Белсельбанк і Ўсекабанк*